11 кастрычніка 2019 | № 38 (649)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144







**Закрыць Новую Зеландыю?**

Стар. 9

**4 ГУЛЬНЯ З НУЛЯВОЙ СУМАЙ**

Адметная асаблівасць беларускіх выбараў: адказныя за іх правядзенне кіруюцца не законам, а справядлівасцю. І хто іх у гэтым асмеліцца папракнуць?

**5 «ТРЭБА БЫЛО ВЫХОДЗІЦЬ АДЗІНЫМ ФРОНТАМ...»**

Што ёсць сёння электаральныя кампаніі, ці трэба ў іх удзельнічаць, і што трэба рабіць апазіцыі, распавядае Віктар Карняенка, дэлегат з'езда Народных дэпутатаў СССР, дэпутат ВС 12 склікання



**6–7 «ГЭТА ЎСЁ НЕ СА МНОЙ»**

На першы ўльтрагук я ішла з радасным хваляваннем. Але доктарка пасля некалькіх секунд узірання ў манітор вымавіла: «Мне вельмі цяжка сказаць тое, што я павінна. Але сэрцабіцця няма, цяжарнасць не развіваецца»

**10–11 ЯК УЛАДКАВАЦЬ ВОЛЬНУЮ БЕЛАРУСЬ**

Гэты ліст мы атрымалі ад вязня Глыбоцкай ПК №13. Ліст цікавы тым, што напісаны ён чалавекам, які шмат гадоў знаходзіцца за кратамі...

# Мільёны еўра ў судовую сістэму



Сяргей ПУЛЬША

**Афіцыёз вельмі любіць прадстаўляць беларускую апазіцыю «празаходняй» і існуючай на замежныя — амерыканскія ці еўрапейскія — грошы. Што не перашкаджае ім самім залазіць у кішэню заходніх падаткаплатнікаў. Але мы не думалі, што ў такіх маштабах!**

Днямі ў Беларусі прэзентавалі цікавую еўрапейскую праграму — «Партнёрства ў падтрымку належнага кіравання». За такой расплывістай фармулёўкай хаваюцца вельмі цікавыя рэчы. Напрыклад, адзін з праектаў — «Умацаванне права на справядлівае судовае разбіральніцтва ў сістэме крымінальнага правасуддзя ў Беларусі». Сярод мэтаў гэтай праграмы — «умацаванне нацыянальнай сістэмы крымінальнага правасуддзя», шляхам адукацыі беларускіх юрыстаў у тым ліку (заўважце!) «па пытаннях, звязаных з адменай смяротнага пакарання».

На гэтыя мэты Савет Еўропы і ЕС выдаткоўваюць паўмільёна (!) еўра цягам 2019–2020 гадоў. Праграма прадугледжвае не што іншае, як навучанне «студэнтаў і прадстаўнікоў юрыдычных прафесій».

Адукацыя — гэта, безумоўна, добра. Але як студэнты еўрапейскіх курсаў за еўрапейскія грошы потым будуць увасабляць атрыманыя веды на практыцы? Адказ адзін — ніяк, бо беларуская судовая сістэма не з'яўляецца незалежнай, і гэта ўсім вядома. Пэўна, апроч Савета Еўропы і ЕС. А таму вучы іх — не вучы, а суддзі будуць вымушаныя выносіць тыя прысуды, пра якія ім скажуць «зверху».

Асабліва смешна гучыць меркаваны вынік праекту: «Укараненне еўрапейскіх стандартаў... у тым ліку прынцыпаў справядлівага судовага разбору ў сістэму прафесійнай падрыхтоўкі юрыстаў». Смешна — таму што на памяць адразу прыходзіць справа Аляксандра Грунова. Ён быў прысуджаны да смяротнага пакарання за забойства сваёй знаёмай, але Вярхоўны Суд адмяніў расстрэл і накіраваў справу на новае разбіральніцтва. Аднак сітуацыю пракаментаваў Аляксандр Лукашэнка, заявіўшы: «Калі ты, нягоднік і падонак, ідзеш і не першы раз ужо робіш злачынства, забіваеш чалавека, то якое права ты маеш жыць на гэтай зямлі?» Другое разбіральніцтва пасля гэтага скончылася тым жа самым смяротным прысудам, і Вярхоўны Суд заплюшчыў на гэта вочы.

Гэта, падаецца, усё, што трэба ведаць пра «прынцыпы справядлівага судовага разбору» ў сучаснай Беларусі. Але ж нельга проста так адмовіцца ад 500 тысяч еўра!



**Як Еўропа можа падтрымліваць суды, што выносяць смяротныя прысуды?**

Дарэчы, той самы Вярхоўны Суд разам з Міністэрствам юстыцыі па тым жа праекце атрымаюць 170 тысяч еўра. На што? На «павышэнне эфектыўнасці функцыянавання рэгіянальных судоў і ўмацаванне іх патэнцыялу, працэдур і практыкі ў грамадзянскіх справах». У гэтай сувязі варта чакаць новых працэсаў у дачыненні, напрыклад, да журналістаў «Белсату» за «працу на замежнае СМІ без акрэдытацыі». Ці новых позваў чыноўнікаў супраць журналістаў і блогераў. Як умацуецца патэнцыял рэгіянальных судоў у — зноў жа, — адсутнасці незалежнага суда, падаецца, і варажыць не трэба.

Гэта — тое, што выдаткоўваецца выключна для судовай сістэмы Беларусі. Але ёсць яшчэ праекты, скіраваныя агулам на краіны «Усходняга партнёрства», да ліку якіх належыць і Сінявокая.

Напрыклад, на мільён еўра пацягне праект па доступе жанчынаў да правасуддзя. Асабліва ўнушальна гэтая лічба глядзіцца на фоне таго, што наш нацыянальны законапраект па супрацьдзеянні хатняму гвалту быў «зарэзаны» па адным выказванні Лукашэнкі. На «ўмацаванне захадаў па папярэджанні эканамічных злачынстваў» у краінах УП Еўропа плануе выдаткаваць 800 тысяч еўра. Раскажыце хто-небудзь пра гэта Андрэю Галавачу, галоўнаму інжынеру МЗКЦ, які «за хабар» адседзеў 50 месяцаў у СІЗА, і пры гэтым чатыры разы (!) быў апраўданы.

А вось тое, што на «ўмацаванне доступу да правасуддзя з дапамогай пазасудовых механізмаў для ахвяраў дыскрымінацыі» будзе выдаткавана 940 тысяч еўра, павінна моцна ўзрадаваць Міністэрства ўнутраных спраў. Яно нават вынайшла пад гэта новую сацыяльную дыскрымінуемую групу — супрацоўнікі міліцыі. І пад гэтую марку (па меркаванні праваабаронцаў) запатрабавала зрабіць закрытым суд над анархістам Дзмітрыем Паліенкам. Які, дарэчы, адзін раз ужо абвяшчаўся «вязнем сумлення».

Дый увогуле, як можа падтрымліваць судовую сістэму, калі агульнапрызнаны вязень сумлення Міхаіл Жамчужны дагэтуль знаходзіцца за кратамі, а ўлада зусім не спяшаецца выконваць рашэнні Камітэта па правах чалавека ААН? Як увогуле Еўропа можа падтрымліваць суды, якія выносяць смяротныя прысуды?

Варта зазначыць, што праект «Партнёрства ў падтрымку належнага кіравання» ажыццяўляецца Саветам Еўропы і Еўрасаюзам ад 2014 года. Дасягнутыя на папярэдніх этапах вынікі займаюць шэсць старонак тэксту. Але на гэтых старонках няма ніводнай (!) згадкі пра Беларусь. Тобок, нягледзячы на ўжо ўкладзеныя немалыя сродкі, вынік па Сінявокай у гэтым праекце — поўны нуль.

Зразумела, калі ЕС укладае грошы ў мадэрнізацыю памежных пераходаў — гэтым яны спрыяюць і сабе. Добра, калі на грошы ЕС у нас будуюцца роварныя сцежкі і развіваецца аграэкатурызм. Але ўкладаць мільёны ў тое, што ў Беларусі адсутнічае, — у судовую сістэму?

# Жамчужны жыве і перамагае

НЧ

**Былы суддзя Канстытуцыйнага суда Міхаіл Пастухоў атрымаў ліст ад вязня папраўчай калоніі №9 Міхаіла Жамчужнага, датаваны 1 кастрычніка гэтага года.**

Жамчужны піша, што з 23 верасня яго перавялі на тры месяцы ў ПКТ (памяшканне камернага тыпу). Гэта — «адпачынак» у параўнанні са штрафным ізалятарам, дзе тэмпература такая ж, як на вуліцы, толькі без ветру. Як піша Жамчужны, у ШІЗА яму «даводзілася спаць падчас прысяданняў». Але двухгадовая загартоўка прывяла да таго, што нават насмарку не з'явілася. Ён жартуе: «Турма ахоўвае сваіх герояў» і бяскрыўдна пагражае сваім крыўдзіцелям: «Перакусаў усіх дзяснамі» (з-за беднага харчавання і адсутнасці вітамінаў Жамчужны пазбавіўся амаль усіх зубоў. — НЧ).

Палітвязень працягвае сваю барацьбу з самаўпраўнасцю і беззаконнем. У адказ на накладзеныя на яго спагнанні ён напісаў скаргі ў МУС, Генпракуратуру і Горацкі суд. У выніку да яго прыбыў прадстаўнік Магілёўскага ўпраўлення Дэпартамента выканання пакаранняў і правёў праверку яго прэтэнзій за працяглы перыяд. Праўда, пра вынікі гэтай праверкі пакуль не вядома.

У лісце Жамчужны паведамляе, як яго спрабавалі пераправіць у атрад, дзе, нібыта, сядзяць «нармальныя мужыкі». Аднак аказалася, што ў гэтай секцыі цалкам замянілі склад асуджаных на тых, хто мае «нізкі статус». Ён гэта адразу зразумеў і адмовіўся заставацца ў атрадзе. За гэта давялося 10 сутак адседзець у ШІЗА.

Вязень сумлення ў перапынках паміж адсідкамі чытае газету «Новы Час», і ў прыватнасці, падзякаваў рэдакцыі і асабіста Міхаілу Пастухову за публікацыю, прымеркаваную да яго дня нараджэння. Міхаіл Жамчужны лічыць, што гэтая публікацыя ўмацавала яго аўтарытэт: атрымаў права на пазачарговую «атаварку» ў турэмнай краме і падаўжэнне да трох месяцаў тэрміну знаходжання ў ПКТ.

Пры гэтым вязень не адмаўляецца ад сваіх творчых планаў. У перыяд раздачы нобелеўскіх прэмій па фізіцы ён марыць працягнуць свае вышукі па распрацоўцы плазменнага лазера. Ён нават прыдумаў яго назву: «плазмер».

Для завяршэння работ яму трэба хутчэй выйсці на волю. Дый Івонка Сурвіла зачакалася ўручэння яму ўзнагароды «100 гадоў БНР».

# Рашэнне пра прымусовае лячэнне пакінулі ў сіле

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Мінскі гарадскі суд не знайшоў падставаў адмяняць пастанову суда Цэнтральнага раёна Мінска. Калі праз 10 дзён прысуд уступіць у сілу, Аляксеенкаву могуць прымусова забраць на лячэнне ў Навінкі.**



Нагадаем, побытавы канфлікт мінчанкі Марыі Аляксеенкавай са знаёмай скончыўся крымінальнай справай і прызнаннем Марыі псіхічна нездаровым чалавекам — пра гэта мы падрабязна пісалі раней. Падчас следства Аляксеенкава, маючы юрыдычную адукацыю і досвед працы ў судзе, самастойна бараніла свае правы і актыўна скардзілася на незаконныя дзеянні праваахоўнікаў. Пасля скаргі ў КДБ Марыю скіравалі на псіхіятычную экспертызу ў Навінкі, падчас якой у яе быццам бы знайшлі псіхіятрычнае захворванне. У сувязі з дыягназам ад крымінальнай адказнасці Аляксеенкаву вызвалілі. Але цяпер маладая жанчына не ведае, як ёй аспрэчыць дыягназ медэкспертаў. У дадзены момант яна для суда — ніхто, яе падчас судовых працэсаў нават ні разу не апыталі. Законным прадстаўніком Аляксеенкавай з'яўляецца яе бацька, Карэн Іаанісіяні.

Падчас судовага пасяджэння Карэн Іаанісіяні выступіў з палымянай прамовай, разбураючы ў пух і прах пазіцыю следчых ды раённага суда. Нават суддзі калегіі па крымінальных справах Людміла Шапашнікава, Жанна Брысіна і Сяргей Хрыпач, якія напачатку выглядалі мала зацікаўленымі, падчас прамовы ажывіліся, і выглядала, што прыслухоўваліся да аргументаў законнага прадстаўніка. Аднак, на жаль, гэта толькі так выглядала, бо пасля доўгай супольнай нарады суддзі абвясцілі, што ўсё ж пакідаюць рашэнне суда Цэнтральнага раёна Мінска без зменаў.

Не паўплывалі на меркаванне суддзяў і аргументы адваката Ульянцава, які абгрунтавана крытыкаваў спосаб правядзення экспертызы. Як мы пісалі раней, гэта экспертыза заняла ўсяго паўтары гадзіны і ўяўляла сабой простую гутарку з Марыяй, правядзенне нескладаных псіхіятрычных тэстаў ды вывучэнне экспертамі матэрыялаў справы. У той жа час абаронца Аляксеенкавай гаварыў пра неабходнасць працяглага даследавання, адсочвання дынамікі, пра важнасць правядзення аналізаў — усяго гэтага зроблена не было.

Цяпер Марыя Аляксеенкава рыхтуецца да падачы наглядный скаргі ў Вярхоўны суд, а пасля і ў Камітэт ААН па правах чалавека. Нягледзячы на тое, што з-за стрэсу апошнім часам у Аляксеенкавай пагоршылася здароўе, яна не адчайваецца і настроеная абараняцца да канца. Акрамя скаргі ў суд і ААН, законны прадстаўнік Марыі Аляксеенкавай ужо падаў скаргу ў Адміністрацыю прэзідэнта, адкуль яе перанакіравалі ў пракуратуру.

Мы будзем і надалей сачыць за гэтай гісторыяй.

# Смяротная кара і літаратура

Сяргей ПУЛЬША

**Тэма смерці ў літаратуры — прыкладна такая ж вечная, яе і тэма кахання. Беларуская літаратура — не выключэнне. У памяшканні беларускага ПЭН-цэнтру 9 кастрычніка прайшла імпрэза «Нельга забіць» у межах Тыдня супраць смяротнага пакарання.**

Як адзначыў вядоўца мерапрыемства, паэт Андрэй Хадановіч, за часы існавання незалежнай Беларусі ў краіне было здзейснена каля 400 смяротных прысудаў. І, зразумела, на ўсё гэта глядзіць беларуская літаратура, гэта не можа не адбівацца на літаратарах, як на думаючых людзях.

Беларуская літаратура, аказваецца, ад пачатку была, так бы мовіць, «літаратурай смяротнай кары». Паліна Сцепаненка згадала пра гэта, як пра «рамантызацыю». Сапраўды, адныя з першых твораў беларускай літаратуры і публіцыстыкі якраз прысвечаныя гвалтоўнай смерці ад рук дзяржавы. Гэта «Лісты з-пад шыбеніцы» Кастуся Каліноўскага. З іх і пайшла «рамантызацыя» такой смерці.

Найноўшы час у гэтым пытанні асвятляецца больш трагічна. Алесь Бяляцкі, напрыклад, згадаў дзённікі Максіма Танка за 1935 год, калі той сядзеў у польскай турме і чуў, як скалочваюцца шыбеніцы для яго сяброў, прыгавораных да смерці ў «панскай Польшчы».

Праўда, потым і сам паэт аказаўся пад пагрозай пазбаўлення жыцця — але ўжо не ў Польшчы, а ў 1939 годзе, калі Саветы прыйшлі ў Заходнюю Беларусь. А ўжо ў часы перабудовы краіна даведалася пра масавыя рэпрэсіі беларускай інтэлігенцыі ў 1932-1933 гадах, у межах барацьбы з «нацдэмаўшчынай», у 1937-м, 1939-м... У расстрэльныя спісы траплялі не толькі тыя, каго мы зараз узгадваем у «Ноч расстраляных паэтаў».

І сёння даволі шмат беларускіх пісьменнікаў прайшлі праз следчы ізалятар на вуліцы Валадарскага ў Мінску, дзе выконваюцца смяротныя прысуды. Дзверы ў «калідор смерці» згадваюцца, напрыклад, у творах Паўла Севярынца.

Так што тэма смяротнага пакарання ў беларускай літаратуры так ці інакш прасочваецца ва ўсе часы яе існавання. І будзе існаваць — прынамсі да таго часу, пакуль смяротнае пакаранне захоўваецца ў айчынным заканадаўстве, а смяротныя прысуды — выконваюцца.

# Сям'і салдата не хочуць плаціць кампенсацыю

**Сям'я нябожчыка Міхала Рыштоўскага, якога камісавалі з войска з чацвёртай стадыяй анкалогіі, спрабуе атрымаць кампенсацыю за смерць сваяка. Аднак страхавая кампанія адмаўляе, бо хлопец памёр дома, а не ў войску.**

Міхал Рыштоўскі з вёскі Трашчычы Карэліцкага раёна на Гродзеншчыне служыў у Слоніме каля года. Яго камісавалі сёлета ў траўні з 4-й стадыяй раку страўніка. У ліпені ён памёр. Пасля смерці важыў 45 кілаграмаў.

У войску Міхаіл не раз скардзіўся на болі, не мог есці. Аднак, па словах ягонай сястры Марыі Грыцкевіч, яго падазравалі ў тым, што ён «косіць», і давалі таблеткі ад болю страўніка, замест таго, каб абследаваць.

Страхавая кампанія адмовіла сям'і Рыштоўскага ў кампенсацыі. Спачатку казалі, што чакаюць вынікаў экспертызы, якая павінна высветліць, калі і ад чаго захварэў Рыштоўскі. Аднак потым, не дачакаўшыся іх, прыслалі адмову ў кампенсацыі.

У адказе гаворыцца, што страхавым выпадкам з'яўляецца, сярод іншага, «смерць застрахаванай асобы, якая наступіла ў выніку прычынення шкоды яе жыццю або здароўю ў сувязі з выкананнем ёю абавязкаў вайсковай службы,.. якая наступіла цягам аднаго года пасля звальнення яе з вайсковай службы».

Да таго ж ліст пацвярджае, што хвароба была атрыманая падчас вайсковай службы. Аднак, як значыцца ў адказе, «смерць Рыштоўскага не звязаная з выкананнем вайсковай службы».

Марыя Грыцкевіч мела тэлефонную гутарку з вайскова-лекарскай камісіяй. Там прычынай адмовы назвалі тое, што Рыштоўскі памёр дома, а не ў войску.

«Тады ніхто па такой схеме не атрымае выплат. Даведаліся пра хваробу, выпшпурнулі — і ўсё. Яны ж бы яго не пакінулі, каб ён там памёр... Цэлы год звяртаўся [да лекараў]. Чаму было не зрэагаваць загадзя? Ці ж гэта не падазрона, калі чалавек цэлы год звяртаецца штотыдзень са скаргамі? Калі б ён атрымаў нейкую траўму, то гэта падыходзіць, а тое, што цэлы год мучыўся, не еў нічога, паміраў цэлымі днямі, гэта не лічыцца», — абураецца Марыя Грыцкевіч.

Страхавая выплата — гэта мінімум, што для сям'і можа зрабіць дзяржава, мяркуе жанчына.

«У нас чалавека забралі. Чаму дзяржава не можа выдаць гэтыя грошы, калі па законе яны належаць?» — пытаецца яна.

Сям'я будзе абскарджваць рашэнне страхавой кампаніі ў цэнтральны апарат Белдзяржстраху, а потым у Адміністрацыю прэзідэнта.

Вынікаў экспертызы дагэтуль няма.

Крымінальную справу ў звязку са смерцю Міхала Рыштоўскага не заводзілі. Адпаведна, сваякі не прызнаныя пацярпелымі і не могуць ведаць, як ідзе дасьледчая праверка.

Спецыяліст ваенкамату па Карэліцкім раёне Канстанцін Зарубайка, якога сям'я вінаваціць у тым, што ён прымусіў хворага хлопца ісці ў армію, пайшоў на пенсію.

Кіраўнік праваабарончага цэнтру «Прававая дапамога насельніцтву» Алег Волчак таксама сцвярджае, што сям'і Рыштоўскага належыць выплата згодна з законам «Аб статусе ваеннаслужачага» і Палажэннем аб парадку і ўмовах выплаты страхавых сумаў па абавязковым дзяржаўным страхаванні ваеннаслужачым.

**Паводле Радыё Свабода**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Не там шукаем «дармаедаў»

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Раней нас палохалі, што з 2020 года беларусы будуць аплачваць 100 працэнтаў камунальных паслугаў. Аднак падобна на тое, што гэтыя планы адкладаюцца. Як і сарваліся планы выцягнуць грошы пад «дэкрэт аб дармаедах».**

Планавалася, «не занятыя ў эканоміцы» з 1 кастрычніка павінны былі плаціць за газазабеспячэнне і цеплазабеспячэнне па стопрацэнтных тарыфах. Але тэрміны гэтай аплаты былі перасунутыя на травень 2020 года. Намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Беларусі Андрэй Лабовіч патлумачыў адтэрміноўку для «дармаедаў» тым, што нібыта не атрымалася апрацаваць усе звесткі пра незанятых у эканоміцы грамадзянаў. Па словах чыноўніка, яны паступаюць амаль з 50 (!) крыніц.

Што толькі ні рабілі ўлады, каб палічыць гэтых «дармаедаў»! Адпраўлялі хадзіць па кватэрах работнікаў ЖЭС, МНС, настаўнікаў. Міністэрствам адукацыі таксама была створаная «база навучэнцаў» для абмену інфармацыяй з Мінпрацы. А ў выніку туды запісвалі ўсіх — жанчын у дэкрэце, пенсіянераў, і нават тых, хто памёр. Усё для таго, каб «апраўдаць» словы вышэйшага кіраўніка пра 500 тысячаў «не занятых у эканоміцы». Атрымалася — як заўсёды. 500 тысячаў, канешне, налічылі — у нашай дзяржаве кіраўнік не памыляецца. Але насамрэч апынулася, што гэта «мёртвыя (іншым разам — у прамым сэнсе гэтага слова) душы».

А з «мёртвых душаў» аплаты не возьмеш. Вось і давялося адкласці «папаўненне бюджэту».

Між тым, са словаў Лабовіча вынікае цікавая рэч — адкладаюцца планы і пра тое, што з 2020 года ўсе беларусы не будуць плаціць 100 працэнтаў за камунальныя паслугі, як гэта раней неадназова абвяшчалася. Газа- і цеплазабеспячэнне якраз і ўваходзяць у паслугі ЖКГ. Аднак, калі нават для «дармаедаў» поўная аплата гэтых паслуг была перанесеная на травень будучага года, то пра «сумленных» грамадзян і размовы не ідзе.

Блытаніну з дадзенымі «з 50 крыніц» улады, напэўна, збіраюцца вырашыць проста. Яны разлічваюць, што беларусы па шчырасці сваёй ім і самі ўсё раскажуць. Паводле дадзеных тых жа ўладаў, «самазакладанне» ідзе рэкордным тэмпамі — за 4 дні больш за мільён грамадзян краіны ўжо ўзялі ўдзел у перапісе насельніцтва. А канкрэтна — па стане на 11:30 8 кастрычніка 1 мільён 176,8 тысяч чалавек былі перапісаныя. З іх 546,5 тысячы прайшлі перапіс праз інтэрнэт.

На цікавыя пытанні перапісу звярнуў увагу пісьменнік Віктар Марціновіч. Прынамсі, на тое, што ў анкеце няма пытанняў пра тое, колькі моваў чалавек ведае, ці пра іншыя нармальныя рэчы. «Гэта дзяржаве не важна. Што ёй важна — гэта дзе дакладна вы жывяце, да якога тэлефоннага нумару прывязаны ідэнтыфікатар у вашым пашпарце, якой маёмасцю валодаеце, дзе працуеце. Ці плануеце выехаць з Беларусі (чытай — на падпрацоўкі)? Ці была ў вас праца з 27 верасня 2019 па 3 кастрычніка 2019-га (чаму, дарэчы, такі перыяд?)? Як часта выязджалі на працу на тэрыторыю іншай дзяржавы? Такіх пытанняў — дзве старонкі з чатырох у апытальным лісце! Прачытайце гэтыя фармулёўкі: "Якія крыніцы сродкаў на існаванне (укажыце асноўную крыніцу!)?" "Дзе ажыццяўляецца ваша праца?" "Дзе знаходзіцца месца вашай працы?"», — піша ён. І заўважае — гэта не статыстыка. Гэта агульнарэспубліканскі допыт, каб выявіць тых самых «дармаедаў».

Не ведаю, наколькі такі хітрык атрымаецца ў дзяржавы. Беларусы ўсё ж шчырыя — але таксама не дурні. Аж да таго, што некаторыя паспрабавалі перапісаць праз інтэрнэт сваіх хатніх жывёлаў, нівелюючы тым самым выніку «агульнарэспубліканскага допыту».

**Ідэя «дармаедскага дэкрэту» з'явілася ў 2014 годзе — пяцігодку таму! Колькі за гэты час было выдаткавана высілкаў і фінансаў на тое, каб увасобіць яго ў жыццё? Толькі на адмове ад гэтага дэкрэту мы б ашчадзілі столькі, што маглі б набываць газ па сусветных коштах**

Між тым, улада марнуе грошы, якіх, нібыта, няма адкуль узяць. І няма пакуль разумення, колькі ўзяць трэба, бо мы не ведаем, колькі іх спатрэбіцца. Напрыклад, газавы кантракт з Расіяй заканчваецца ў гэтым годзе, і на тыдні прайшлі перамовы па гэтым пытанні. Прычым, яны тычацца не толькі газу, але і аб'ёму паставак.

Найперш, аб'ём можа быць ніжэйшы ў сувязі з запускам БелАЭС — з перакладам часткі электрагенерацыі на АЭС краіна будзе мець патрэбу ў меншым аб'ёме газу. А калі АЭС не запусціцца?

Да таго ж Расія настойвае на вырашэнні гэтага пытання пасля распрацоўкі дарожных картаў у рамках праграмы інтэграцыі. Як вядома, дарожныя карты павінны быць падрыхтаваныя да снежня. Плануецца, што кіраўнікі краін іх падпішуць 8 снежня, у гонар 20-годдзя Саюзнай дамовы. А калі не падпішуць?

Раней паведамлялася, што газавае пагадненне не ўваходзіць у пакет інтэграцыйных дакументаў. Зноў падманулі?

Таму ўлады звыкла бяруць грошы там, дзе яны, нібыта, ёсць: з кішэняў насельніцтва. У Мінску кантралёры атрымалі права спыняць аўтобусы і тралейбусы на «незапланаваных прыпынках» і ўломвацца ў салон, каб знайсці «зайцаў».

Наколькі гэта падвысіць «зборнасць» штрафаў, сказаць цяжка. Наўрад ці сума будзе велічэзнай. Аднак, што можна сказаць дакладна — гэта выкліча (і ўжо выклікае) моцную незадаволенасць народа такімі дзеяннямі. «Да чаго мы коцімся? Гэта мы злачынцаў ловім? Я шмат у якіх краінах свету была — і гэта проста прыніжэнне народа, мне сорамна за краіну!» — можна пачуць у мінскіх аўтобусах. Прычым, як паведамляюць журналісты, што паездзілі з кантралёрамі ў першы дзень такой практыкі, абураюцца не «безбілетнікі», — абураюцца тыя, хто сумленна аплаціў праезд.

Бо, сапраўды, такая практыка прымусовага спынення транспарту — гэта прыніжэнне ўсіх пасажыраў. Выглядае, што ад пачатку іх усіх запісваюць у «патэнцыйныя злачынцы», а толькі потым разбіраюцца...

Між тым, грошай у дзяржавы, насамрэч, процьма. Іх толькі трэба ўмець ашчаджаць. Задумайцеся: ідэя «дармаедскага дэкрэту» з'явілася ў 2014 годзе — пяцігодку таму! Колькі за гэты час было выдаткавана высілкаў, фінансаў і чалавека-гадзін працы на тое, каб увасобіць яго ў жыццё? Колькі падаткаплацельшчыкам каштуе зборышча адной «дармаедскай камісіі»? Колькі грошай (а праца прагramістаў — не танная) трэба, каб апрацаваць «дадзеныя з 50 крыніц»?

Толькі на адмове ад «дармаедскага дэкрэту» мы б ашчадзілі столькі, што маглі б набываць газ па сусветных коштах, і не парыцца з «інтэграцыямі».

А калі яшчэ падкараціць штат ідэолагаў, — усё роўна дасюль ніхто не ведае, што такое «беларуская ідэалогія», — мы б і транспарт, напэўна, маглі б зрабіць бясплатным.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Юрый Губарэвіч

**Кіраўнік Руху «За Свабоду» ў час збору подпісаў за сваё вылучэнне кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў сутыкнуўся з незвычайнай праблемай.**

Сябры ініцыятыўнай групы Губарэвіча спрабавалі сабраць подпісы жыхароў Усходняй выбарчай акругі №107. «На адным з прапускных пунктаў па вуліцы Чалюскінцаў — Станюты ахоўнік у міліцэйскай форме паведаміў, што грамадзянаў Беларусі мы тут не знойдзем. Маўляў, у катэджным пасёлку жывуць адны толькі сербы, — адзначае Юрый Губарэвіч. — На іншым КПП, па вуліцах Чалюскінцаў — Кальцова, нас наогул адмовіліся пусціць на тэрыторыю агульнага карыстання, на якой дакладна ўжо пражываюць грамадзяне Беларусі. Такім чынам пазбавіўшы патэнцыйных выбаршчыкаў права паставіць подпіс у падтрымку кандыдата».

Паводле Губарэвіча, яго каманда мае намер разабрацца, што за «зоны асаблівага рэжыму» створаныя на тэрыторыі Мінска. Пры гэтым Юрый Губарэвіч адзначыў, што здзяйсненне перашкодаў у зборы подпісаў цягне на адказнасць па артыкуле 191 Крымінальнага кодэкса «Перашкода ажыццяўленню грамадзянінам Рэспублікі Беларусь права свабодна выбіраць і быць абраным».

Пры гэтым палітык адзначыў, што ўсе зарэгістраваныя кандыдаты ад Руху «За Свабоду» маюць намер прайсці выбарчы марафон да канца: «Мы не бачым сэнсу ў частковым удзеле, калі ёсць магчымасць выкарыстоўваць усе магчымасці выбарчай кампаніі: на першым этапе — пікеты, зборы подпісаў, сустрэчы з людзьмі. А рэгістрацыя — адзін з асноўных інструментаў доступу да дзяржаўных мас-медыя, якога ў апазіцыі няма наогул паміж выбарамі. Таму будзем удзельнічаць у дэбатах, выступаць па тэлебачанні, будзем даваць праграмы ў СМІ — усе законныя інструменты агітацыі мы плануем задзейнічаць напоўніцу», — дадаў Губарэвіч.



## Уладзімір Макей

**Міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей на палях форуму «Мінскага дыялогу» выказаўся за папулярызацыю беларускага мовы.**

Ён падкрэсліў, што беларускай мовай у краіне карыстаюцца менш, чым рускай. Надаваць больш увагі беларускай мове трэба для таго, каб захаваць нацыю і дзяржаву. «Калі мы хочам захаваць нацыю, народ, дзяржаву, то гэта само сабою разумеецца», — адзначыў ён.

У той жа час папулярызацыя беларускага мовы, паводле яго словаў, не азначае выцясненне або ўшчамленне рускай мовы. Таксама гэта не з'яўляецца сведчаннем палітычнай пераарыентацыі Беларусі супраць Расіі. «У Беларусі дзве дзяржаўныя мовы — беларуская і руская. І руская другой дзяржаўнай, па-мойму, нідзе ў свеце больш не з'яўляецца», — нагадаў міністр.



## Аляксей Кузьміч

**Беларускі мастак зладзіў у Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў дзёрзкі перформанс супраць цэнзуры.**

Калектыўная выстава «Прысутнасць» адкрылася ў НЦСМ 3 кастрычніка. Гэта выказванні пяці мастакоў пра розныя праявы крызісу сучаснага свету. Адзін з творцаў, Аляксей Кузьміч, на адкрыцці распрануўся дагала, назваўшы гэта акцыяй «Шчыт».

Творца выйшаў амаль голым у фае НЦСМ, толькі самыя інтымныя месцы былі прыкрытыя шыльдай («шчытом») з надпісам «Міністэрства культуры. Рэспубліка Беларусь». Пастаяўшы троху, мастак паведаміў, што акцыя накіравана супраць цэнзуры, якая пануе ў НЦСМ, дзе няма сучаснага мастацтва, і сышоў у залу, дзе экспануюцца яго работы.

Аляксей патлумачыў, што, на яго думку, у НЦСМ няма як такога сучаснага мастацтва, бо яно цэнзуруецца ўладнай вертыкаллю. «Міністэрства культуры — гэта шчыт, які абараняе розум гледачоў ад нязручнага, вострага мастацтва. Чамусьці іх цікавіць пытанне рэпрэзентацыі другасных палавых прыкмет замест пытанняў культуры і мастацтва. Хаця на самай справе ў фаласе няма нічога кепскага, гэта сакральны сімвал», — кажа творца.

Выставу Аляксей Кузьміч стварыў па запрашэнні НЦСМ. Спытаўшы, ці ёсць у Цэнтры нейкая цэнзура, атрымаў адказ: «Абы не было эрэгаваных чэлесаў. Астатняе ўсё можаце рабіць». «Ну, я, уласна, і зрабіў», — кажа мастак.

а | Азбука паліталогіі

# Гульня з нулявой сумай



Сяргей НІКАЛЮК

**Усе спартыўныя гульні — гэта гульні з нулявой сумай. Калі форвард вашай улюбёнай каманды забівае камандзе суперніка гол — каманда суперніка яго прапускае. І як бы ні стараліся форварды, сума забітых і прапушчаных мячоў (апошнія варта лічыць са знакам «мінус») будзе роўная нулю. Аналагічная гісторыя і з балансам перамогаў і паразаў. Ён сыходзіцца заўсёды — і тым адрозніваецца ад балансу дэбету і крэдыту ў бухгалтара-пачаткоўца.**

А ці можна ўявіць сабе гульню, у якой выйграюць абодва ўдзельнікі? Безумоўна. Жылі-былі, напрыклад, два сябры — паэт і аматар выразаць свістулькі. У першага быў сцізорык, але не было асадкі. У другога ж, наадварот, была асадка, але не было сцізорыка. Пасля непрацяглых перамоваў сябры вырашылі здзейсніць абмен. З фармальнага пункту гледжання нічога не змянілася. Абмен нічога не дадаў, аднак ён ператварыў два бескарысныя прадметы ў два карысныя. У выніку і паэт, і аматар выразаць свістулькі засталіся ў выйгрышы, дый не толькі яны. Паэт атрымаў магчымасць пісаць вершы ў альбомы каханых паненак, а аматар выразаць свістулькі таксама не застаўся ў накладзе. Ён зарэгістраваўся раменснікам і за сціплую плату стаў забяспечваць усіх аматараў пасвістаць сваімі немудрагелістымі вырабамі.

Гэты, здавалася б, прыватны выпадак ілюструе сутнасць рынкавай эканомікі, заснаванай на ўзаемавыгадным абмене. Пра маштабы абмену мы можам меркаваць паводле справаздачаў Сусветнай гандлёвай арганізацыі. Яго міжнародны складнік вырас у 2018 годзе да $ 19,7 трыльёна. У бягучым годзе такі абмен павінен быў павялічыцца яшчэ на 1,2%. Сціпленька. І віной таму — гандлёвая вайна паміж ЗША і Кітаем

А як наконт палітыкі? На жаль, тут не ўсё так адназначна. Растлумачу на прыкладзе, запазычаным у расійскага паліталога Барыса Макаранкі: «Савецкая мадэль развіцця спарадзіла не вядомы раней феномен: індустрыяльнае, гарадское, адукаванае грамадства без інстытутаў рынку і прыватнай уласнасці, без канкурэнцыі як у эканоміцы, так і ў палітыцы».

Ключавое слова ў цытаце — «канкурэнцыя». Строга кажучы, пры яе адсутнасці пра палітыку можна казаць толькі ўмоўна, аднак жа казаць можна, і гэта вялікі прагрэс у параўнанні з савецкім перыядам у развіцці беларускай дзяржаўнасці.

### За чый кошт банкет?

У аўтарытарных палітычных рэжымах, якія імітуюць дэмакратычныя выбары, вынікі галасавання можна прадказаць загадзя. Гэта важная, але не адзіная іх асаблівасць. Выбары, як гульню з нулявой сумай, мабыць, па значнасці можна смела паставіць на другое месца. На практыцы гэта азначае, што пераможца атрымлівае ўсё ці амаль усё. Прыгадаем парламенцкія выбары 2016 года, калі ў склад Палаты прадстаўнікоў былі дапушчаныя дзве апазіцыянеркі — Ганна Канапацкая і Алена Анісім. Колькасць дапушчаных магла быць і большай, але справа не ў колькасці. Выбары ад гэтага не сталі б выбарамі, бо рашэнне наконт пераможцаў прымалі не выбаршчыкі.

Часы мяняюцца, і вось ужо з Палаца Незалежнасці загучалі словы, здольныя ўсяліць надзею: «Будучы парламент павінен быць лепшы за гэты. Калі будзе такі ж ці горшы, значыць, няма развіцця. Таму, не ў крыўду дэпутатам будзе сказана, павінны прыйсці людзі лепшыя, якія, калі гэта трэба будзе (выбучана. — Рэд.), павядуць рэспубліку наперад».

Няўжо ў Палацы Незалежнасці задумаліся пра будучыню Беларусі, а заадно і пра нашу з вамі? І няхай сёння патрэбы ў парламенце, здольным весці рэспубліку наперад, яшчэ не сфарміраваліся, але хто дасць гарантыю, што такое з ёй (з патрэбай) не здарыцца паслязаўтра? Руплівы гаспадар рыхтуе санкі летам, а калёсы зімой, таму будучы парламент «павінен стаць дыскусійнай пляцоўкай для дыялогу дэпутатаў з рознымі палітычнымі поглядамі, якія пры гэтым падзяляюць галоўныя прынцыпы: незалежнасць краіны, стабільнае развіццё і рост дабрабыту беларускага народа».

Цяперашні рост дабрабыту без развіцця сёння ўжо не задавальняе архітэктараў «беларускай мадэлі». Звернемся да статыстыкі. Рэальныя наяўныя грашовыя даходы насельніцтва за студзень-ліпень павялічыліся на 7,1%, а эканоміка падрасла толькі на 1,3%. За чый кошт банкет? Можа, за кошт амерыканскага мільярдэра Ілана Маска, які падарыў адзінаму палітыку (АП) электрамабіль «Тэсла»? Наўрад ці. Як адна ластаўка не робіць вясны, так і адзін электрамабіль не здольны павысіць даходы 9,5 мільёна беларусаў на статыстычна значную велічыню. Асобна ўзятаму беларусу — калі ласка, усім разам — не ўпэўнены, хоць чаго толькі ў гэтым жыцці не здараецца.

На дварэ — эканоміка ведаў. «Беларуская мадэль» рэагуе на яе шляхам скарачэння колькасці арганізацый, якія выконвалі навуковыя даследаванні і распрацоўкі (у 2011 годзе — 501, а ў 2018 годзе — 455), і зніжэннем колькасці персаналу, занятага навуковымі даследаваннямі і распрацоўкамі (у 2011 годзе — 32 194 чалавекі, а ў 2018 годзе — 27 411). Але калі першы паказчык за сем гадоў скараціўся на 9%, а другі — на 15%, то колькасць выдадзеных патэнтаў на вынаходніцтвы за той жа перыяд знізілася на 58% (з 1 474 да 625).




### Ці яны, ці краіна

Злыя языкі сцвярджаюць, што асаблівых надзей наконт руху наперад мець не варта. Адзін з такіх языкоў належыць расійскаму палітыку Леаніду Гозману. Вось як ён абгрунтоўвае свой песімізм: «А яшчэ ў будучыні нас чакаюць хаатычныя, як у курыцы з адсечанай галавой, дзеянні па ўтрыманні ўлады — нічога іншага каманду прэзідэнта ўжо не цікавіць. <...> У любым выпадку, нічога станоўчага гэты рэжым у краіне не здзейсніць — і не цікава гэта ім, дый немагчыма — практычна любыя разумныя крокі ўступаюць у супярэчнасць з іх асабістымі інтарэсамі. Бо такую сістэму яны пабудавалі — гульня з нулявой сумай, выйграюць ці яны, ці краіна».

Што ж, пагодзімся. Будучыня за хаатычнымі рухамі, але пакуль адпрацаванаму да дробязяў алгарытму правядзення выбараў нішто не пагражае, што і было пацверджанае яшчэ 17 траўня на нарадзе па арганізацыі і правядзенні парламенцкіх выбараў. Цытую: «Патрабаванні да правядзення выбарчай кампаніі нязменныя. Гэта павінны быць сумленныя, справядлівыя выбары, без надуманых абмежаванняў, каб ні ў каго не было сумневаў у іх легітымнасці».

Статыстыка фармавання ўчастковых выбарчых камісій пацвярджае, што заяўленыя 17 траўня патрабаванні будуць рэалізаваны ў поўным аб'ёме. Каб не стамляць чытачоў, колькасць партый, якія вылучылі сваіх прадстаўнікоў у склад участковых выбарчых камісій, рэдукую да чатырох (глядзі табліцу).

Нічога нечаканага не адбылося. Чарговыя парламенцкія выбары абяцаюць быць справядлівымі — зрэшты, як і ўсе папярэднія. Вось такая асаблівасць беларускіх выбараў: адказныя за іх правядзенне кіруюцца не законам, а справядлівасцю. І хто іх у гэтым асмеліцца папракнуць? Яны дзейнічаюць у поўнай адпаведнасці з указаннем АП: «Усё ў законах не прапішаш. І калі дзесьці не хапае заканадаўчай базы — дзейнічай па справядлівасці. Справядлівасць вышэйшая за закон заўсёды, калі на тое пайшло. Бываюць несправядлівыя законы, а само паняцце справядлівасць (можна сказаць, філасофскае паняцце) абсалютнае. Таму зыходзіць трэба заўсёды з гэтага».

**ЗВЕСТКІ ПРА ВЫЛУЧЭННЕ І ЎКЛЮЧЭННЕ ПРАДСТАЎНІКОЎ ПАЛІТЫЧНЫХ ПАРТЫЙ У СКЛАД УЧАСТКОВЫХ ВЫБАРЧЫХ КАМІСІЙ**

| Партыя | Вылучана | Уключана | % |
|---|---|---|---|
| Беларуская аграрная партыя | 655 | 637 | 97,3 |
| Беларуская сацыяльна-спартыўная партыя | 660 | 639 | 96,3 |
| Абʼяднаная грамадзянская партыя | 223 | 14 | 6,3 |
| Партыя БНФ | 80 | 5 | 6,3 |

Тыя, хто прэтэндуе на статус асабліва разумных, мне запярэчаць: маўляў, справядлівасць у кожнага свая. Я ведаю, але ці гэта штосьці мяняе? Мы жывем у Беларусі, а не ў Еўропе, дзе «ўсё сціснута, усё задымлены, усё брудна, людзі труцца адзін аб аднаго». У нас чысценька, прасторна, і ў такіх умовах няма сэнсу хапаць адзін аднаго за грудкі з мэтай высвятлення, чыя справядлівасць справядлівейшая.

З АП не паспрачаешся — «паняцце справядлівасці абсалютнае», прычым не столькі ў філасофскім сэнсе, колькі ў практычным. Гаворка, зразумела, ідзе пра «нашу справядлівасць», г.зн. пра справядлівасць, крыніцай якой з'яўляецца сам АП. Каб патлумачыць такі нюанс, звернемся па дапамогу да культуролага Ігара Якавенкі: «Па справядлівасці ёсць шанец урваць тое, што хочацца. А па законе — атрымліваеш толькі тое, што належыць».

І да закона, які ў Беларусі, што дышаль, можна падыходзіць выбарачна. Аднак выдаткі пры гэтым будуць істотна вышэйшымі, чым пры вырашэнні праблем па справядлівасці. У прыватнасці, «наша справядлівасць» наўпрост звязаная з пазіцыяй чалавека ва ўладзе, што істотна спрашчае жыццё тым, хто надзелены правам прымаць рашэнні.

У якасці прыкладу рэкамендую зноў звярнуцца да табліцы. Чаму ад адных партый праз сіта раённых адміністрацый у склад участковых выбарчых камісій праходзіць каля 100% кандыдатаў, а ад другога — каля 6%? Ды таму, што адны партыі — праўладныя, а другія — апазіцыйныя. Паводле закону? Не, не па закону. Але ўсё ў законе не прапішаш, дый гэтага і не трэба рабіць.

# Віктар Карняенка: «Трэба было выходзіць адзіным фронтам, з падзелам акруг і вылучэннем аднаго апазіцыйнага кандыдата»

Аксана КОЛБ

**Ужо не адну выбарчую кампанію палітычна актыўная грамада падзяляецца на тых, хто ўдзельнічае, і тых, хто байкатуе выбары. З кожным электаральным цыклам спрэчак усё больш, а выбараў усё менш. Што ёсць сёння электаральныя кампаніі, ці трэба ў іх удзельнічаць, дый наогул, што трэба рабіць апазіцыі, распавядае Віктар Карняенка, дэлегат з'езда Народных дэпутатаў СССР, дэпутат ВС 12 склікання, былы першы намесні старшыні Гомельскага гарсавету.**



***— Давайце адразу з галоўнага пытання: ці існуюць у Беларусі выбары?***

— Пачынаючы з 1996 года ў Беларусі інстытут выбараў прэзідэнта, заканадаўчых і прадстаўнічых органаў улады грамадзянамі, лічу, не існуе. На маю думку, з гэтага часу ўладу ў нашай краіне нельга лічыць легітымнай і законнай.

***— Калі сапраўдных выбараў няма, ці трэба ў гэтых кампаніях удзельнічаць?***

— Не аднойчы выказваўся на гэты конт. Навізна сённяшняга погляду на дылему ўдзельнічаць — не ўдзельнічаць толькі ў тым, што ўпершыню за трыццаць гадоў я сам не ўдзельнічаю ў гэтай кампаніі пад назвай «выбары» ні ў якой якасці. Зусім не таму, што памяняў меркаванне. Не! Папросту ва ўсяго бывае свой пачатак і заканчэнне. Так што нічога асабістага.

Сапраўды, выбараў як дэмакратычнага механізму абрання органаў улады няма. Але ёсць палітычная кампанія пад назвай «выбары» і, самае галоўнае, ёсць беларускія выбаршчыкі. Таму ігнараваць такія кампаніі апазіцыйныя палітычныя арганізацыі не маюць права. Відавочна, што неабходнасць правядзення падобных спектакляў раздражняе і Лукашэнку, таму ён і называе іх «вакханаліяй». Але адмяніць так званыя «выбары» не маглі нават у СССР. Канешне, удзел апазіцыйных партый тут не трэба блытаць са змаганнем за мандат. Вось такія спадзяванні смешныя, марныя, і «дэпутатам» у існуючых умовах можна стаць толькі той ці іншы апазіцыянер, які персанальна патрэбны ў гэтай якасці для гульняў рэжыму ў дэмакратыю.

***— Ці маюць рацыю тыя, хто разглядае гэтыя кампаніі як магчымасць апазіцыйнай агітацыі?***

— Маюць, канечне, але больш вольная агітацыя падчас кампаній, калі хоць крыху ўзрастае палітызаванасць грамадства, — толькі адзін, прычым не самы галоўны чыннік. Больш важна не даць рэжыму магчымасці забяспечыць сваю «элегантную перамогу», і чарговым разам выкрыць фальсіфікатараў на рэальных свежых фактах, у персаналіях і па канкрэтных месцах злачынстваў. Даказваць грамадству, міжнароднай супольнасці, што сённяшнія выбары фальшывыя, бо такімі ўжо былі мінулыя, зусім непераканаўча і недарэчна. Ёсць і іншыя, можа, менш значныя аргументы супраць ігнаравання нават такіх «выбараў». Мабілізацыя новых актывістаў, падвышэнне палітызацыі грамадства, падтрымка структур у адпаведным тонусе, пошук новых тэхналагічных метадаў, напрыклад, выкарыстоўванне сацыяльных сетак. Лепш гэта, чым 2 месяцы прасядзець на канапе за кампутарам.

***— Ці легітымізуе апазіцыя такія выбары сваім удзелам?***

— Такое меркаванне рэтранслююць альбо недасведчаныя ў гэтым пытанні людзі, альбо тыя, каму ўдзельнічаць няма чым. Бо для правядзення любой кампаніі патрэбны, як мінімум, людскія рэсурсы. Скажу больш. Калі ўявіць, што ўсе апазіцыйныя партыі будуць ігнараваць, напрыклад, бягучую кампанію, законнасць абранага «парламента» падвысіцца. Калі ўдзельнічаць будуць толькі стаўленікі ўлады, то і фальсіфікаваць нічога не трэба. Грамадзяне, якія шукаюць альтэрнатыву, яе не знойдуць, нават падчас агітацыі і збору подпісаў. Міжнародныя назіральнікі пабачаць, што з выбарамі на гэты раз усё ціп-топ, тады чаму ПАСЕ і ЕС не прызнаваць прайшоўшыя без парушэнняў выбары дэмакратычнымі?

Ёсць дзіцячыя спадзяванні, што адмова апазіцыі ад удзелу ўжо па факце будзе выклікаць пытанні ў грамадскасці і міжнародных інстытутаў. Хутчэй, наадварот. Нават тыя нешматлікія партнёры згубяць да Беларусі цікавасць, бо дапамагаць можна тым, хто нешта робіць. Урэшце, у якім прававым акце (Канстытуцыя, законы, міжнародныя дамовы і г.д.,) запісана, што адмова ад удзелу ў кампаніі апазіцыі робіць выбары нелегітымнымі? Што да беларускай грамадскасці, яна нават і не заўважыць такога пратэсту, бо рэжым элементарна падбярэ спарынг-партнёраў для сваіх сапраўдных пратэжэ.

Існуюць і больш экзатычныя аргументы на карысць ігнаравання кампаній, напрыклад, такая: паступова апазіцыйны ігнор выкліча ланцуговую рэакцыю, участкі для галасавання будуць пустымі — і гэта смяротна напалохае ўладу, якая пабачыць, што застаецца без падданых грамадзян. Па-першае, грамадзяне патрэбны сённяшняй уладзе толькі для таго, каб, умоўна кажучы, стрыгчы іх, як авечак. Па-другое, ініцыятарамі такіх утапічных прапаноў з'яўляюцца тыя, хто абсалютна зашораны і адарваны ад сапраўднага жыцця людзей. Некаторыя яшчэ настойваюць на тым, што адмова ад удзелу апазіцыі ў падобных кампаніях — гэта сімвалічны шлях да яе ачышчэння. Я не святар, таму гэтыя «аргументы» пакіну без каментара.

***— А ці ёсць яшчэ ў прынцыпе сёння апазіцыя? Каго прэзентаваць беларускаму грамадству?***

— Магчыма, некаторыя лічаць, што апазіцыі ў краіне няма, сама апазіцыя лічыць, што яна ёсць. Іншае пытанне, наколькі і ці лідары не захапілі ўсе плошчы-вуліцы гарадоў краіны і палітычныя вакансіі. Любы крытык можа паспрабаваць дасягнуць палітычных мэтаў больш паспяхова, чым сённяшнія крытыкаваныя ім няўмекі.

***— Якая тактыка, на ваш погляд, больш правільная: байкот ці ўдзел?***

— Усе добра вядомыя партыі, рухі, грамадскія кампаніі, зарэгістраваныя і не, акрамя КХП БНФ, цяпер у кампаніі ўдзельнічаюць. Сярод іх сёння і тыя, што яшчэ зусім нядаўна займалі дыяметральна супрацьлеглую пазіцыю. Лічу, што такая палітычная кампанія, як байкот выбараў, мэтазгодная і можа быць плённай толькі тады, калі галасы выбаршчыкаў лічацца. Чуў пярэчанні, маўляў, а навошта ж тады байкот? Напрыклад, калі незаконна не зарэгістравалі кандыдата ў прэзідэнты ці дэпутаты альбо знялі яго з выбараў. Тады зрываем выбары і дамагаемся новых. Перавыбары — галоўная мэта байкоту. У нашых умовах гэта немагчыма, таму няма чаго і абмяркоўваць.

***— А што наконт стратэгіі?***

— Стратэгіяй можна назваць што заўгодна. Канешне, якія стратэгі, такая будзе і стратэгія. Калі ж сыходзіць з таго, што задача стратэгіі — эфектыўнае выкарыстанне наяўных рэсурсаў для дасягнення галоўнай мэты, то тут можа ўзнікнуць адно няёмкае пытанне. А наколькі ж супадаюць мэты ўсіх тых партый, якія абвяшчаюць сябе апазіцыйнымі? Іншым разам палітычная дзейнасць больш нагадвае ўнутрывідавую барацьбу па нейкіх колькасных паказчыках, чым жаданне зрынуць рэжым.

***— Ці магчыма наогул нейкая супольная пазіцыя апазіцыі?***

— Падставы для сумеснай дзейнасці ўсёй палітычнай сцягі і адкласці высвятленне праграмных разыходжанняў да лепшых часоў. Без гэтага абмяркоўваць нейкія асобныя сумесныя аператыўныя дзеянні бессэнсоўна.

**Ёсць дзіцячыя спадзяванні, што адмова апазіцыі ад удзелу будзе выклікаць пытанні ў грамадскасці і міжнародных інстытутаў. Хутчэй, наадварот. Нават тыя нешматлікія партнёры згубяць да Беларусі цікавасць, бо дапамагаць можна тым, хто нешта робіць**

яна арганізаваная, дзеяздольная, палітычна дасведчаная і паспяховая. Відавочна, патэнцыял для росту апазіцыйных настрояў ёсць, гэтаму спрыяе рэжым сваімі сацыяльна-эканамічнымі і палітычнымі «дасягненнямі». Пытанне ў тым, калі гэтыя пратэстныя настроі вылезуць з уласных кухань, лазняў, курылак і альтанак у публічную прастору. З аб'ектыўных прычын трэба ўзяць пад увагу тое, што нельга чакаць бурнага росквіту апазіцыйных партый пры адсутнасці выбараў, жорсткім падаўленні іншадумства ды пад поўным кантролем рэжыму дзяржсектару (і не толькі!) эканомікі. Адна кантрактная сістэма чаго вартая! Але давайце будзем шчырымі: апазіцыйныя партыі апазіцыі, відавочна, ёсць. Усе ж апазіцыянеры хочуць, каб Беларусь пераўтваралася ў прававую дзяржаву, грамадзяне па-сапраўднаму абіралі прэзідэнта, прадстаўнічую і заканадаўчую ўлады, дзейнічалі Канстытуцыя і законы. Спадзяюся таксама, што ўсіх іх хвалюе праблема захавання нашай краінай суверэнітэту і незалежнасці. Для дасягнення гэтай агульнай мэты трэба абавязкова змяніць існуючы рэжым з ягонай ідэалогіяй, якую інакш як самадурствам не назавеш. Галоўным тактычным сродкам тут лічу неабходнае аб'яднанне ўсіх апазіцыйных сілаў у адну каманду. Не для напісання нейкай чарговай сумеснай заявы, а для працы. Такое аб'яднанне патрабуе крыху прыспусціць свае партыйныя

Дысанансам такой тактыкі з'яўляецца як стварэнне ідэалагічных кааліцый, так і нічым не падмацаваныя прэтэнзіі на самадастатковасць, што сёння і назіраецца ў нашым палітыкуме. Канешне, можна сказаць, што такія кааліцыі — не перашкода для больш шырокай кааперацыі па тым ці іншым пытанні. Але на практыцы ў прыярытэтах застаюцца свае купіны ў агульным апазіцыйным балоце.

Паміж іншым, станоўчы досвед тут ёсць, гэта 2005–2006 гады, калі большасць апазіцыйных інстытутаў (партый, прафсаюзаў, НДА) змаглі дамовіцца і выступіць адзінай камандай. Зразумела, кампанія 2006-га была далёка не бездакорнай, але яна давала добрую надзею на перспектыву. Аб'яднаная апазіцыя была заўважана як салідны палітычны партнёр, аб чым сведчаць сустрэчы Аляксандра Мілінкевіча з прэзідэнтамі і канцлерамі вядучых еўрапейскіх краін, падпісанне дамоваў і рэалізацыя такіх, можна сказаць, міждзяржаўных праектаў, як «Белсат» і праграма Каліноўскага.

Ці магчыма сёння ўявіць сабе такое? Наадварот, да беларускіх «парламентарыяў» не так даўно прыязджала дэлегацыя дэпутатаў Сейму той жа Польшчы. Я бачу ў гэтым вялікую «заслугу» апазіцыянераў, якія пасля 2006-га не замацаваліся на «заваяваных» плацдармах і не развівалі той невялікі поспех, а пачалі ўсё з чарговага пачатку.

Што канкрэтна да гэтай кампаніі, перакананы: на яе трэба было выходзіць адзіным фронтам, з падзелам акруг і вылучэннем у кожную з іх аднаго апазіцыйнага кандыдата. Агульнае пасланне да выбаршчыкаў магло б быць прыкладна такім: «У кожнай нашай партыі ёсць праграмы. Вось яны, калі цікава! Але ў вас няма рэальнай магчымасці абіраць уладу і курс развіцця краіны. Таму зараз мы разам, каб вярнуць і вам, і нам гэта права. Без вашага шырокага ўдзелу і падтрымкі поспеху тут быць не можа». Мэта бягучай кампаніі — падрыхтоўка да значна больш важнай наступнай, прэзідэнцкай, дзе адзінства, як паказаў 2015 год, проста жыццёва неабходнае.

***— Дык на што можна спадзявацца і што, на ваш погляд, сёння важна рабіць?***

— У гэтым пытанні крыху адчуваецца безвыходнасць. Вы не вучань, я не майстар, але адна вядомая прыпавесць тут да месца. Памятаеце, як вучань запытаў у майстра, ці доўга чакаць пераменаў да лепшага? — Калі чакаць, то доўга! — адказаў майстар. Пры любых раскладах калектыўныя дзеянні — лепш, чым калектыўныя бяздзеянні. Спадзявацца ж трэба толькі на саміх сябе.

Дзіяна СЕРАДЗЮК

# «Гэта ўсё не са мной». Як я

**На першы ўльтрагук я ішла з радасным хваляваннем: вось-вось я ўпершыню ўбачу маленькую істоту, якая расце ў мяне ўнутры. Але калі доктарка пасля некалькіх секунд узірання ў манітор спытала маё імя, я адчула, што нешта не так. Нарэшце яна вымавіла: «Дзіяна, мне вельмі цяжка сказаць тое, што я павінна. Але сэрцабіцця няма, цяжарнасць не развіваецца».**



Гэтыя некалькі словаў у адно імгненне перакулілі ўсё маё жыццё.

Папярэднія 11 тыдняў я нібы лётала, сяброўкі заўважалі: «Ты ажно свецішся!». Не тое, каб мець дзіця было маёй марай, але калі цяжарнасць наступіла, гэта надало моцы і напоўніла такой вялікай любоўю! Бо ты цяпер — цэлы свет для маленькай кузюркі, якая штотыдзень павялічваецца ў тваім жываце то да памераў зярнятка, то гарошыны, то фасоліны… Пяць разоў на тыдзень хадзіць у паліклініку? Лёгка! Прымірыцца з таксікозам і болем у грудзях? Калі ласка! Адмовіцца ад пералёту і трэнінгу ў іншай краіне па парадзе доктара? Без праблем — абы з маёй дзетачкай усё было добра.

І раптам у адно імгненне ўсё гэта разбіваецца ў пыл, нібы крохкая парцаляна. Аказваецца, ужо каля тыдня маё дзіця не жыве. Аказваецца, плоднае яйка — так пакуль што называлася маё дзіця, — дэфармаванае з невядомых прычын. Аказваецца, так заканчваецца кожная шостая — сёмая цяжарнасць, і такіх выпадкаў усё больш і больш — наступствы Чарнобыля. Аказваецца, амаль немагчыма даведацца, чаму гэта здарылася пры нашых з мужам ідэальных аналізах.

Напэўна, у мяне ўсё ж моцная псіхіка. Арганізм адразу ўключыў абарончую рэакцыю — слёзы, а мозг тым часам метадычна раскладаў усё па палічках: так, такое бывае, і гэта, на жаль, цяпер ледзь не норма. І неяк агароджваў мяне ад паглыблення ў тое, што адбывалася. Нібыта гэта не мне толькі што сказалі, што маё дзіця не народзіцца, што мая цяжарнасць скончылася, ледзьве паспеўшы пачацца. Гэта ўсё — не са мной.

Я нібы заведзеная хадзіла па калідоры шпіталя, куды яшчэ ўчора з жартачкамі паступіла на захаванне. У палату зайсці не магла — там дзяўчаты, усе цяжарныя, навошта ім гэта бачыць? Ды і я б не вытрымала сядзення на месцы. Пазваніла маме і мужу, якія тут жа сарваліся з працы, каб прыехаць да мяне. І яшчэ сяброўцы, якая пару гадоў таму перажыла выкідыш, а пасля нарадзіла дачку. Дзякуй ім, іх падтрымка мне вельмі дапамагла.

Да гэтага я ні разу не ляжала ў шпіталі, мне не рабілі ніякіх аперацый. Таму дадатковым шокам стала неабходнасць дастаць з мяне маё ненароджанае дзіця. Гэта называецца жудасным словам выскрабанне. Прапанавалі зрабіць яго на наступны дзень, але я адмовілася: чым хутчэй — тым лепш, здавалася, я не змагу яшчэ суткі з гэтым жыць. Але раніцай я з'ела банан. Гэта цяжкая ежа, пасля яе небяспечна рабіць наркоз — можа быць рвота і ўдушэнне. Давялося пераносіць аперацыю. З таго дня я не магу есці бананы.

Мама з мужам вывезлі мяне ў парк, увечары прыехала сяброўка, мяне нават звазілі дамоў. У той час гэта было менавіта тое, што трэба: блізкія людзі, якія любяць, спачуваюць і, галоўнае, разумеюць, і родныя сцены. Стала лягчэй.

Наступным ранкам падчас абходу доктар сказаў, што аперацыя будзе ў 10–11 гадзін. Але ні ў 10, ні ў 11, ні ў 12 да мяне не прыйшлі. Чаканне было невыносным, але што рабіць: усе анестэзіёлагі занятыя. За гэты

---

# «Нараджаць — з «планам», —

Ксенія ЛІЦВІНОЎСКАЯ

**Пару месяцаў таму сацыяльны праект «Радзіны» распачаў новую кампанію для цяжарных. Будучым маці рэкамендуюць адпраўляцца ў радзільню з «планам родаў» — гэта пажаданні жанчыны, загадзя складзеныя і перададзеныя медперсаналу. «Тваё права на пазітыўны вопыт у родах!» — такую назву атрымала ініцыятыва.**

Ідэя «плана родаў» з'явілася ў Гродне чатыры гады таму. «Там працавала доўла (памочніца цяжарных. — Рэд.), урач-кансультант Ганна Кузняцова, якая цяпер жыве ў Польшчы, — распавяла Святлана Аўчыннікава, спецыяліст па сувязях з грамадскасцю. — Цяжарныя жанчыны, якім дапамагала Ганна, звярталіся да яе з пытаннем: як зрабіць так, каб улічваліся іх пажаданні пры родах? І яна з імі на падставе кніг таго ж Мішэля Адэна і іншых аўтараў, кансультуючыся з акушэркамі ў радзільні, распрацоўвала той "план". Таму што ў замежных кнігах пра народзіны, пра план пажаданняў для цяжарных распісана ўжо дваццаць гадоў таму. Потым Вераніка Заўялава, стваральніца праекта "Радзіны", паразмаўляла з Ганнай пра яе досвед ды разам з беларускай адвакаткай Вольгай Залескай перапрацавала дакументы так, каб яны адпавядалі заканадаўству».

«План родаў» атрымаў назву «Заява аб уліку правоў і інтарэсаў у прававдзенні родаў». Узор можна спампаваць на planrodov.radziny.by і перарабіць пад сябе. Выбраць тыя пункты, якія падыходзяць для асабістага выпадку, а таксама дадаць свае.

Узгоднена з заканадаўствам

Пункты «плана родаў» закранаюць разнастайныя аспекты. Пажаданні нараджаць з партнёрам, не ўскрываць калаплодны пузыр для стымуляцыі родаў ці правесці роды без медыцынскага ўмяшання для іх паскарэння — аксітацыну (калі стан цяжарнай і плода не выклікаюць асцярогаў). Нараджаць у зручнай (свабоднай) позе, не пераразаць пупавіну да заканчэння пульсацыі. «Такія пажаданні часта адпавядаюць як поглядам жанчын, так і прагрэсіўных дактароў і навукоўцаў, ёсць у стандартах пра сучасны спосаб вядзення родаў», — падкрэслівае Святлана Аўчыннікава. Таксама пасля перарэзання пупавіны жанчыны просяць пакінуць дзіцё для прыкормлівання і прамога цялеснага кантакту.

«Звычайныя пажаданні. І атрымліваецца, што доктар і акушэрка бачаць, што і жанчына разбіраецца ў тым, што яна робіць. Што яна не проста аб'ект, а яна — суб'ект. Дактары чытаюць "план" — і разумеюць, што жанчыне важна рабіць падчас народзінаў», — кажа Святлана Аўчыннікава.

Аднак, падкрэслівае яна, гэта не азначае, што парадзіха дыктуе дактарам, як ім працаваць. Напрыклад, у экстранных сітуацыях, калі трэба тэрмінова зрабіць кесарава сячэнне ці прымяніць іншыя метады медапамогі. «У "плане родаў" мы рэкамендуем агаварыць, што калі ёсць ускладненні, жанчына гатова пачуць доктара. І трэба, каб ёй паведамілі, што адбываецца. Што і для чаго патрэбна рабіць пры незапланаваным умяшанні, і якія наступствы гэтага. Згодна з законам, прымае рашэнне пацыентка — жанчына, якая нараджае».

**«У "плане родаў" жанчына папросту выказвае пажаданні, якія могуць быць выкананыя ў любым раддоме. І яны поўнасцю ўзгодненыя і з заканадаўствам, і з медпратаколам. Прыносьце "план" у радзільні — і яго павінны выканаць»**

«План родаў» выкарыстоўвае закон «Аб ахове здароўя». Напрыклад, раздзел 9, які інфармуе пра правы пацыентаў на ўдзел у выбары метадаў аказання медыцынскай дапамогі. Раздзел 10, які абавязвае медыкаў паважліва і гуманна ставіцца да пацыентаў, выконваць іх правы. Артыкул 41 пералічвае правы пацыентаў; артыкул 44 прадугледжвае згоду пацыента на аказанне медыцынскай дапамогі, артыкул 45 — адмову пацыента ад аказання медыцынскай дапамогі, у тым ліку медыцынскага ўмяшання. Таксама «план родаў» улічыў клінічны пратакол «Медыцынскае назіранне і аказанне медыцынскай дапамогі жанчынам у акушэрстве і гінекалогіі» (зацверджаны Міністэрствам аховы здароўя). І рэкамендацыі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя.

«У "плане родаў" жанчына папросту выказвае пажаданні, якія могуць быць выкананыя ў любым раддоме. І яны поўнасцю ўзгодненыя і з заканадаўствам, і з медпратаколам. Прыносьце "план" у радзільні — і яго павінны выканаць», — падкрэсліла Святлана Аўчыннікава.

### Адмовы: што рабіць?

На практыцы жанчыны сутыкаюцца з адмовамі.

«Напрыклад, Баранавіцкі раддом, — прыводзіць Святлана Аўчыннікава. — Паўгода таму там нараджала Вольга Лініч. Гэта было яе трэцяе дзіця. І яна папросту хацела, як яна сказала, "нарадзіць па-людску". І таму ў трэціх родах яна выкарыстала "план родаў". Вольга паслала адпаведную заяву ў Баранавіцкую радзільню (яна там была першая з "планам родаў"). Ёй сказалі, што ўлічваюць у родах толькі медпратакол, а не правы пацыенткі. Яна звязалася з праектам "Радзіны", і мы дапамаглі напісаць зварот у камітэт аховы здароўя Брэсцкага аблвыканкама».

І кіраўнік упраўлення Віктар Міхалоўскі «даў дабро». У адказе ён напісаў, што ўказаныя ў «плане родаў» пункты, калі роды будуць праходзіць без эксцэсаў, выканальныя. Баранавіцкі раддом прыняў заяву Вольгі, і яна нарадзіла «па плану».

Святлана Аўчыннікава адзначыла:

«"План родаў" упіраецца ў суб'ектыўнае стаўленне адміністрацыі радзільні. Калі жанчыны ідуць у радзільню з "планам", то часцей за ўсё ім кажуць: "Не, не рэгіструйце, мы вусна ўсё потым улічым". Канечне, гэта ўсё не ўлічваецца.

Таму мы цяпер ставім акцэнт жанчынам менавіта на тое, што гэта ваша права — зарэгістраваць заяву. І калі ты яе зафіксаваў — гэта ўжо юрыдычна афіцыйны дакумент. Значыць, абавязкова павінна быць рэакцыя.

Калі жанчына прыходзіць з "планам родаў", і там стаіць нумар рэгістрацыі, альбо з афіцыйным станоўчым адказам з радзільні ці з камітэта па ахове здароўя, то дактары пачынаюць дзейнічаць згодна з вашымі пажаданнямі. Таму што ў нас звыкла тое, што калі гэта афіцыйна пацверджаны дакумент і зверху прыйшла пастанова, што варта так зрабіць — яны будуць рабіць не зважаючы на свае псіхалагічныя ўстаноўкі. Вось і ўсё.

Але нават калі жанчына проста прыехала з заявай аб сваіх пажаданнях у родах, медработнікі абавязаныя прыняць яе і ўлічваць напісанае там. Таму што менавіта медбрыгада ў родах афармляе ўсе згоды/адмовы пацыенткі. Спадзяемся, што з часам і жанчыны навучацца карыстацца сваімі правамі, і дактары выконваць свае абавязкі поўнасцю».

# пeражыла замерлую цяжарнасць

час я амаль змагла пераканаць сябе, што ўсё, што адбылося, — да лепшага, што гэта — правільна, і добра, што яно здарылася цяпер, чым пазней. І ў той жа час, нібыта гледзячы на сябе збоку, думала: як гэта жахліва — даводзіць самой сабе, што смерць уласнага ненароджанага дзіцяці — добра і правільна.

Нарэшце ў 12.40 па мяне прыйшла медсястра. Сказала пераапрануцца ў халат і ісці ў аперацыйную. Ну вось, я ўласнымі нагамі іду пазбаўляцца ад таго, з кім размаўляла амаль тры месяцы і каго ўжо, здаецца, паспела палюбіць...

«Вы толькі спачатку мяне ўсыпіце», — прашу дзяўчат-анестэзіёлагаў. Мяне падлучаюць да апаратаў, устаўляюць катэтар у руку. Прыходзіць доктар. «Чакайце, я яшчэ не сплю!» — пачынаю панікаваць. Мяне супакойваюць, што яшчэ нічога не пачалося. Медсястра жартуе: «Хто са мной на сто грамаў і агурчык?» — «Я!» — адгукаюся, каб заглушыць стрэс. — «Хадзем!» Потым чую размовы анестэзіёлагаў пра колькасць «кубікаў», якія ў мяне трэба ўліць, мне даюць кіслародную маску, я ўдыхаю, а выдыхнуць ужо не магу — задыхаюся. З апошніх сіл кажу пра гэта, маску прыбіраюць, і столь пачынае круціцца...

«Прачынаемся, уздымаем попу і перасоўваемся на ложак!». Ого! Аказваецца, я ўжо ў палаце, і мне трэба пералегчы з каталкі, на якой мяне прывезлі. Раблю гэта, усё яшчэ нібыта ў тумане, рукі і ногі анямелыя, язык не варушыцца. Мне на жывот кладуць грэлку з лёдам. Жывот пакрысе пачынае балець. Усё больш і больш — але цярпіма, як пры месячных, толькі таблетку не вып'еш. Запытваюся ў суседкі, колькі часу. Аказваецца, прайшло ўсяго 20 хвілін з моманту, як я пайшла на аперацыю. Прашу пазваніць маме і сказаць, што ўсё добра.

**Мая няўдалая цяжарнасць зрабіла мяне мацнейшай. Я змяніла погляд на многія рэчы і ўжо амаль нічога не баюся, акрамя страты блізкіх. Маё ненароджанае дзіцятка дапамагло мне зразумець, як я іх люблю, і як яны любяць мяне**

Вельмі дзіўнае адчуванне: пасля таго, як усё скончылася, наступіла неверагодная лёгкасць. Я гатовая была абняць доктара, медсясцёр, анестэзіёлагаў і ўсіх навокал за тое, што ўсё прайшло так хутка, і што я нічога не адчувала. Але самае галоўнае — стала лягчэй маральна. Можа быць, таму, што самым пакутлівым для мяне было чаканне.

Праз пару гадзін я ўжо хадзіла. Потым лягчэй станавілася з кожным днём. Але слёзы накрывалі часта. Цяпер самае важнае — прыняць тое, што адбылося, і вучыцца жыць далей, з гэтым новым, такім балючым, але каштоўным досведам.

***

Заміранне цяжарнасці стала самым вялікім і цяжкім выпрабаваннем у маім жыцці. Гэта рана на сэрцы, якая застанецца са мной назаўжды. Не важна, на якім тэрміне памірае дзіця, — для кожнай сям'і гэта гора. І таму нельга абясцэньваць яго, кажучы, напрыклад, што «гэта яшчэ было не дзіця», альбо «не перажывайце, яшчэ народзіце», ці «ну хопіць раскісаць, час вяртацца да жыцця». Гараваць — трэба, бо пакуль не выплачацца, не выкрычыцца, не выйдзе на паверхню ўвесь боль, да паўнавартаснага жыцця вярнуцца немагчыма. Але ў той жа час варта разумець, што жыццё працягваецца, незалежна ад нашых абставінаў. І ў нашых жа інтарэсах пачынаць жыць далей.

Мая няўдалая цяжарнасць адназначна зрабіла мяне мацнейшай. Пасля перажытага я змяніла погляд на многія рэчы і ўжо амаль нічога не баюся, акрамя, хіба што, страты блізкіх. Маё ненароджанае дзіцятка дапамагло мне зразумець, як я іх люблю, і як яны любяць мяне. Даражэй за іх у мяне няма нікога ў свеце. Я сапраўды стала гэта цаніць.

Пакуль я не звярталася па дапамогу да псіхолага, хаця, магчыма, гэта спатрэбіцца. Але мне здаецца, што я спраўляюся сама, хаця «накрывае» яшчэ дасюль: ад размоваў пра дзіцячую смяротнасць, ад віду цяжарных жанчын, ды часам і проста так, без дай прычыны... Тады я дазваляю сабе плакаць, дзе б ні была, нават у транспарце. І гэта — нармальна.

Я зразумела, што пра сваю страту трэба казаць — тады траўма перажываецца лягчэй, а заадно з'яўляецца магчымасць як бы зірнуць на сябе збоку. Амаль адразу я напісала свайму ненароджанаму дзіцяці ліст, дзе ўзгадала ўсе свае пачуцці і перажыванні, сказала, як я яго люблю, папрасіла прабачэння і пастаралася адпусціць. Я ведаю, што яноззяе маленькай зорачкай дзесьці на прасторах Сусвету, лётае ў паветры, жыве ва ўсім навокал.

Я пішу гэты тэкст скрозь слёзы. Пішу таму, што ведаю, як гэта важна — казаць аб той бядзе, якая здараецца з многімі, але пра якую не прынята гаварыць публічна. Бо раней я не задумвалася, як шмат жанчын перажываюць замерлыя цяжарнасці ці выкідышы. І я пішу для таго, каб сказаць: калі вы страцілі дзіця, ведайце, што вы — не адны. Можа быць, гэты тэкст камусьці дапаможа лягчэй перанесці гора — і я вельмі на гэта спадзяюся. Бо цяпер дакладна ведаю: з гэтым можна жыць. Хаця спачатку сама ў гэта не верыла.

А для тых, каму цяжка справіцца з болем самастойна, альбо проста хочацца дадатковай падтрымкі, ёсць спецыялісты. Калі ласка, не саромцеся звяртацца да іх. Напрыклад, у цэнтры падтрымкі сям'і і мацярынства «Матуля» займаюцца ў тым ліку псіхалагічным кансультаваннем у выпадку страты дзіцяці. Ёсць і іншыя арганізацыі і прыватныя спецыялісты, якія дапамогуць перажыць гора і зноў пачаць жыць.

# раяць жанчынам эксперты

### Аптымальна і пазітыўна

«"План родаў" карысны для двух бакоў, — даводзіць Святлана Аўчыннікава. — І жанчына адчувае сябе як асоба, як маці, як адказны чалавек. І доктар ведае, што важна жанчыне зрабіць. Сітуацыя спрашчаецца. Мы ў сваёй ініцыятыве аптымізуем працэс узаемадзеяння медперсаналу з парадзіхай.

Ты выказваеш свае пажаданні. І доктар тады можа індывідуальна да цябе падыйсці. "План родаў" паказвае, што ты разумееш сваю фізіялогію і дапамагаеш доктару. Канечне, роды могуць быць непрадказальныя, па рознаму пайсці. Аднак "план" дапамога ісці не наўздагад і не на шанец, а быць больш упэўненай у тым, каб атрымаць пазітыўны досвед народзінаў.

З другога боку, калі ты, доктар, бачыш "план родаў", ты прачытаў, што гэтай цяжарнай трэба, ты ўжо з ёй так і камунікуеш, як ёй патрэбна. А так да цябе паступіла невядомая жанчына, ты з ёй камунікуеш як? Па шаблону. План родаў палягае ў тым, каб парадзіха і медперсанал сталі камандай падчас таго, як жанчына знаходзіцца ў радзільні. І адсотак пазітыўнага досведу павялічыцца ад такога простага інструмента, як "план родаў"».



### Доўлы

Запыт на доўлаў узнік і ў Беларусі. Пра гэта сведчыць і з'яўленне сайта doula.by.

«Веды пра іх толькі фарміруюцца, — кажа Святлана Аўчыннікава. — Па-другое, у нас партнёрскія роды актыўна развіваюцца толькі апошніх два гады. І толькі ў 2018 годзе ў пастанове Міністэрства аховы здароўя (аб зацвярджэнні санітарных нормаў) прапісалі, што тваім партнёрам можа быць і не сваяк. І, фактычна, толькі з бягучага года ўсё часцей доўлы пачынаюць з'яўляцца ў радзільнях як партнёры. Тут пытанне з тым, наколькі іх пускаюць у радзільні. Пакуль што доўлаў не хочуць бачыць у радзільнях. Таму што не сфарміравана да канца разуменне, хто такая доўла. Тое ж самае, як з "планам родаў"».

Спіс доўлаў у Беларусі размясцілі і ў Instagram «Радзінаў». Сярод найбольш вядомых, напрыклад, Марыя Іванова, якая мае багаты досвед дапамогі парадзіхам.

«Доўла — гэта чалавек, які ведае шмат пра народзіны, — адзначыла Святлана Аўчыннікава. — Яна немедыкаментознымі метадамі дапамагае цяжарным жанчынам. Можа зрабіць ім масаж, навучыць дыхальнай тэхніцы. Дапамагчы жанчыне падчас народзінаў. То-бок, гэта ў асноўным псіхалагічная і фізічная падтрымка. Гэта як той жа муж, толькі проста яна з большым досведам.

Партнёрам можа выступаць сястра, муж, маці, доўла, сяброўка. Мы цяпер раім, калі жанчына хоча нараджаць з доўлай, каб яна казала, што прыйдзе з сяброўкай на партнёрскія роды. Тады прасцей пускаюць. Мы за выбар і дыялог. Аднак проста калі ўжо адміністрацыя кажа "ніякіх доўлаў", то якая нам розніца? Ну напішу я проста — Марыя Іванова. Наогул, у заяве аб партнёрскіх родах я не павінна ўказваць, кім мне даводзіцца партнёр.

Паступова, я думаю, будзе павялічвацца запыт сярод жанчын — і прыйдзе разуменне, што доўла дапамагае і жанчыне, і медперсаналу спрашчае працу. Тое ж самае, што з "планам родаў". Таму я мяркую, усё роўна паступова доўлы стануць звычайнай справай у партнёрскіх родах, як на Захадзе».

### «Жанчына — галоўны герой у сваіх родах»

Што яшчэ можна пераняць з вопыту іншых краінаў, змяніць у нас на практыцы?

«Слухаць парадзіху, — лічыць Святлана Аўчыннікава. — І адчуваць, што яна галоўны герой у сваіх родах. І яна таксама адказвае за свае роды.

Пытаць у яе "план родаў". Ты за тры хвіліны яго чытаеш — і шмат чаго разумееш пра цяжарную. І з іншага боку, памятаць пра правы парадзіхі на інфармаваную згоду. Медыкі павінны выпрацаваць на ўсіх узроўнях (гэта не толькі датычыцца радзільні) дыялог з пацыентам. Распавядаць, што яны робяць, для чаго і якія наступствы гэтага. Пасля таго, як чалавек кажа: "окей, я згодны", вы яму прапісваеце працэдуры. Ці ён кажа, што не згодны. То-бок, інфармаваць людзей, ставіцца да іх як да суб'ектаў.

Тое, што не выкарыстоўваюць права на інфармаваную згоду, тут і мы вінаватыя. Заўжды любыя працэсы ідуць з двух бакоў. Часта людзі лічаць: доктар для іх — панацэя. А гэта чалавек, і важна да яго таксама ставіцца як да чалавека. Важна разумець, што за сваё здароўе ты сам нясеш адказнасць. І калі б мы памяталі пра свае права канчатковай адказнасці, то доктар таксама б памятаў пра гэта і распавядаў бы нам, што і для чаго ён робіць. Таму галоўнае — паважаць адзін аднаго ва ўзаемаадносінах. І ставіцца адзін да аднаго на роўных».

Ініцыятаркі праекта пазітыўных родаў збіраюцца надалей распаўсюджваць веды пра права інфармаванай згоды. А таксама пра «план родаў» і яго аспекты. У прыватнасці, права парадзіхі на свабодную позу. І звяртаюць увагу на пазітыўныя змены, якія ўжо адбыліся ў 2018 годзе. Цяпер партнёрам можа быць любы чалавек, і могуць прымацца вертыкальныя роды (вольныя позы). Адметна і тое, што радзільні пачалі праводзіць дзень адкрытых дзвярэй.

— То-бок, паступова радзільні адкрываюцца пацыентам, — адзначыла Святлана Аўчыннікава. — Альбо зрухі ў практыцы народзінаў. Раней пупавіну адразалі адразу, цяпер ужо ў медпратаколах напісана — чакаць не менш за хвіліну. Раней, калі вы памятаеце, каб дзіцё прыкладалі да грудзі? Цяпер у медпратаколах напісана — дзіцё прыкладаем да грудзі. Другія роды пасля першага кесарава пачалі дактары падтрымліваць, хаця раней забаранялі. То-бок, усё мяняецца. І праз актыўнасць менавіта грамадства, праз зваротную сувязь.

Чым больш жанчын будзе выкарыстоўваць "план родаў", тым больш медыцынскі персанал будзе мяняць свой падыход канвеера. Будуць ставіцца больш індывідуальна. Для іх гэта ўжо будзе таксама звычайнай практыкай, як у той жа Вялікабрытаніі. Доктар будзе рабіць сваю справу, як і да гэтага рабіў. Папросту пры гэтым ён будзе інфармаваць парадзіху аб сваіх дзеяннях і ўлічваць яе пажаданні. Паступова гэта ўвойдзе ў звычайны ход народзінаў.

Я ўпэўненая, што праз пэўны час усё прыйдзе да таго, што сустракаць парадзіх у радзільні будуць з пытання: «А дзе ваш "план родаў"?»

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГЕРМАНІЯ. Кліматычнае паўстанне: пачатак

Ад 7 кастрычніка радыкальныя эколагі з групоўкі Extinction Rebellion распачалі сусветнае кліматычнае паўстанне. Першым аб'ектам паўстання аказаўся Берлін, дзе зранку быў заблакаваны адзін з ключавых аўтамабільных маршрутаў у цэнтры. І гэта толькі пачатак. Актывісты ўжо заявілі пра намер блакаваць усе транспартныя развязкі і ператварыць Берлін у прастору без машын. Хаця іх заявы і ўчынкі відавочна супярэчаць закону, улады горада вырашылі пакуль не ўжываць паліцыю для разгону, што можна растлумачыць партыйным раскладам у гарсавеце. Большасць там належыць левым партыям, якія падтрымліваюць захады супраць глабальнага пацяплення. Парадаксальна, аднак да разгону пратэстаў берлінскую ратушу заклікаюць эколагі. Гаворка пра арганізацыі, якія канкуруюць з Extinction Rebellion і называюць тую сектай. Застаецца пачакаць, як будзе развівацца сітуацыя далей, і нагадаць, што ад Extinction Rebellion можна чакаць вясёлых учынкаў. Раней актывісты групоўкі з дапамогай дронаў спрабавалі заблакаваць працу лонданскага аэрапорта «Хітроў».

**Паводле нямецкай прэсы**

### СЯРЭДНЯЯ АЗІЯ. На шляху да новай дзяржавы?

Не так даўно стала вядома, што ўвосень 1991-га на фоне развалу СССР кіраўніцтва былых савецкіх рэспублік Сярэдняй Азіі вяло кансультацыі наконт стварэння адзінай дзяржавы. Аднак нешта не атрымалася — і пра ідэю забыліся. І вось цяпер у рэгіянальнай прэсе зноў пачалі гаварыць пра адзіны Туркестан (так традыцыйна называецца сярэднеазіяцкі рэгіён). Імпульсам для дэбатаў стала тэма ўваходжання Узбекістана ў Еўразійскі эканамічны саюз. Некаторыя бачаць у гэтым пагрозу вяртання рэгіёну пад кантроль Масквы і прапаноўваюць падумаць над праектам рэгіянальнай інтэграцыі. Але, паколькі аўтары ідэі, якая была сфармуляваная ў пачатку XX стагоддзя, бачылі часткай Туркестана землі уйгураў (цюркскі народ, які пражывае ў цяперашняй кітайскай правінцыі Сіньцзян), наўрад ці Пекін дазволіць стварэнне аб'яднання. Зрэшты, ёсць і больш простыя пытанні, на якія няма адказаў. Напрыклад, на якой мове будзе гаварыць і пісаць гэта новая дзяржава, паколькі ўласныя нацыянальныя дыялекты моцна адрозніваюцца? Ці пагодзяцца на такі праект мясцовыя кланы? Адзіны шанец для стварэння Туркестана — пад'ём адной з лакальных дзяржаваў, прыклад якой прымусіць суседзяў думаць аб супрацоўніцтве аж да інтэграцыі.

**Паводле сярэднеазіяцкай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. Астэрыкс не ходзіць у McDonald's

Французская грамадскасць перажыла сапраўдны інсульт. Усё праз рэкламны білборд кампаніі McDonald's. На ім Астэрыкс і Абелікс — персанажы коміксу — харчуюцца ва ўстанове клоуна Рональда. З улікам таго, што Астэрыкс лічыцца ледзь не сімвалам Францыі, публіка не на жарт абурылася. Па сецібе пайшлі гуляць плёткі, што McDonald's рыхтуецца набыць брэнд у выдавецтва Éditions Albert René, і хутка любімыя французамі героі коміксаў пачнуць рэкламаваць рознага кшталту бургеры. Некаторыя нават заклікалі да байкоту коміксаў, якія, маўляў, сталі ахвярай амерыканскага культурнага імперыялізму. У выніку кіраўніцтва McDonald's было вымушана каментаваць пратэсты. Па іх словах, Астэрыкс і Абелікс з'явіліся ў рэкламе фірмы не для камерцыйнай рэкламы, а ў межах шырокай кампаніі за талерантнасць, калі кліентамі рэстарану паказваліся розныя, палярныя па поглядах, культурныя персанажы. Дырэкцыя Éditions Albert René, у сваю чаргу, таксама публічна паклялася не прадавацца амерыканскім карпарацыям.

**Паводле французскай прэсы**

### ЗША. Цнатлівыя пойдуць у «Джокеры»?

Левая і ліберальная прэса Захаду арыгінальна каментуе фільм «Джокер», які выйшаў на экраны 4–5 кастрычніка і распавядае пра самотнага клоуна Артура Флека, які ў выніку ўнутраных пошукаў становіцца «Джокерам» — злачынцам і антаганістам сістэмы. Стужка выклікала сапраўдны фурор, і яе ўжо называюць адным з лепшых фільмаў у гісторыі кіно. А вось псіхолагі, у адрозненне ад культуролагаў, бачаць у «Джокеры» выключна негатыў. На думку некаторых каментатараў, «Джокер» — не што іншае, як маніфест «інцэлаў» (ад «involuntarily celibate» — «вымушаны цэлібат». — НЧ), прадстаўнікоў усё больш масавай субкультуры маладых і цнатлівых мужчынаў, якія не могуць знайсці сабе сяброўку. Шмат з іх перакладаюць віну за сваю самотнасць на фемінізм, сімпатызуюць правым і гатовыя на радыкальныя ўчынкі. У персанажы Флека шмат хто з «інцэлаў», маўляў, пабачыць сябе — і возьмецца за зброю. Праўда, некаторы лічаць, што такія змрочныя прагнозы памылковыя. На самай справе, інтымная адзінота героя фільма — гэта, бадай, найменшая з яго праблем.

**Паводле амерыканскай прэсы**



Фота www.deviantart.com

# Пітон прыляцеў!

Алег НОВІКАЎ

**Галоўныя сусветныя сатырыкі, «бітлы» гумару, каралі жарту... Гэта далёка не ўсе панегірыкі на адрас удзельнікаў камедыйнага шоу «Monty Python's Flying Circus» («Лятаючы цырк горнага пітона»), якому ў гэтыя дні споўнілася 50 гадоў.**

У эфіры BBC 5 кастрычніка 1969 года аб 11 гадзіне пачалася дэманстрацыя гумарыстычнага камедыйнага шоу «Лятаючы цырк горнага пітона». Шоу пратрымалася 4 сезоны і пасля закрыцця стала прызнанай класікай. Некаторыя нават кажуць, што за гэты час Тэры Джонс, Джон Кліз, Майкл Пэйлін, Грэм Чэпмен, Эрык Айдл, Тэры Гіліям — удзельнікі калектыву, — цалкам і назаўжды змянілі камедыйны жанр.

Такі трыумф трошкі дзіўны, паколькі «пітоны» шмат эксперыментавалі — аж да таго, што без комплексаў ламалі традыцыйную структуру сатырычнага скетчу. Замест фінальнага жарту напрыканцы сцэнкі вельмі часта пачынаўся поўны абсурд або проста дэманстраваліся псіхадэлічныя мульцікі. Для тагачасных гледачоў такі сюррэалізм быў яшчэ больш прыкольным, калі ўзгадаць, што BBC лічылася бастыёнам традыцый і кансерватызму.

Нягледзячы на выкрутасы і бясконцыя пошукі, стваральнікі шоу паспелі выдаць набор скетчаў, якія кожны еўрапеец або амерыканец ведае гэтак жа добра, як мы — камедыі Гайдая. Канонам лічацца скетчы «Міністэрства смешнай паходкі», «Самы смешны жарт», «Іспанская інквізіцыя» і, натуральна, «Мёртвы папугай». У 1990-м яго ўзгадала Маргарэт Тэтчар, каб патрыліць праціўнікаў-лібералаў, якія прынялі ў якасці сімвалу партыі выяву птушкі. Тэтчар тая птушка нагадала мёртвага папугая, якога па ходзе скетча кліент хоча вярнуць прадаўцу заалагічнай крамы. У сваю чаргу, той прыдумляе розныя адгаворкі аж да таго, што папугай проста заснуў.

Некаторыя краіны сёння ганарацца тым, што іх неяк узгадалі ў «Monty Python». Напрыклад, у Венгрыі вельмі гучна адзначылі юбілей выхаду скетча, у якім падарожнік з Венгрыі хоча набыць цыгарэты і спрабуе гаварыць з прадаўцом, выкарыстоўваючы за адсутнасцю іншага «венгерска-англійскі слоўнік ненарматыўнай лексікі».

«Пітоны», як вядома, прыдумалі тэрмін «спам» у тым разуменні, як мы яго ведаем сёння. У адным са скетчаў, дзе падзеі адбываюцца ў кафэ, усе стравы ў меню ўтрымліваюць «SPAM» (так сапраўды называлася гандлёвая марка кансерваў). Калі галоўны герой скетча, які прыйшоў у гэтую кавярню разам з жонкай, просіць прынесці яму страву без «SPAMа», афіцыянтка прапануе

> **Творчасць «пітонаў», якая ў 1960-я гады ўспрымалася як пратэст супраць каштоўнасцяў істэблішменту, з часам стала эталонам брытанскай культуры**

яму страву з «невялікай колькасцю SPAMа». Усяго гэтае слова згадваецца ў скетчы 108 разоў.

Падавалася, што за гады працы на BBC «пітоны» высмеялі ўсё, што магчыма. Аднак галоўны скандал, выкліканы іх жартамі, быў наперадзе, — пасля таго, як яны пачалі здымаць кіно. Пасля някепскага дэбюту з фільмам «Святы Грааль» (грошы на яго, дарэчы, даў «бітл» Джордж Харысан) было вырашана здымаць фільм-пародыю «Жыццё святога Браяна». У фільме павінна была распавядацца гісторыя маладога яўрэя, які нарадзіўся ў тым жа месцы і ў той жа час, што і Ісус Хрыстос. Праз гэта героя памылкова прымаюць за Месію.

Паколькі ў стужцы было вельмі шмат жартаў на біблейскую тэматыку, яго рэліз мабілізаваў шматлікіх клерыкалаў. Нягледзячы на папраўкі, зробленыя па патрабаванні цэнзараў, фільм усё роўна адмовіліся круціць шматлікія студыі тэлебачання. Гарсаветы, дзе было багата вернікаў-пратэстантаў, забаранялі пракат стужкі ў мясцовых кінатэатрах. Той жа лёс чакаў карціну ў каталіцкіх краінах — Ірландыі, Італіі і гэтак далей. А ў Злучаных Штатах пікетавалі кінатэатры, дзе круцілі «Жыццё святога Браяна», выходзілі адначасова манашкі і равіны — незвычайная рэч, якая, наадварот, спрыяла рэкламе стужкі.

Заўзятым хрысціянам найбольш не падабалася канцоўка, дзе галоўнага героя караюць на крыжы, як Хрыста. Яны казалі, што гэтая сцэна — яўны здзек з пакутаў Ісуса, паколькі экзекуцыя выглядае вельмі камічна. Ахвяры ўкрыжавання спяваюць вясёлы матыў, а Браян кажа чалавеку на суседнім крыжы: «Бачыш, не ўсё так кепска!»

Пасля «Жыцця» выйшаў яшчэ адзін фільм, які стаў апошнім у кінаграфіі «пітонаў». У 1983 годзе творчая групоўка канчаткова распалася, а яе ўдзельнікі заняліся паспяховай сольнай кар'ерай. Прычым, пазней неаднаразова сыходзіліся зноў — для рэалізацыі сумесных праектаў.

А вось спадчына групоўкі дасюль выклікае шмат спрэчак. Творчасць «пітонаў», якая ў 1960-я гады ўспрымалася як пратэст супраць каштоўнасцяў істэблішменту, з часам стала эталонам брытанскай культуры. Дайшло да таго, што тыя, хто хоча атрымаць брытанскі пашпарт, павінны ведаць самыя славутыя скетчы групоўкі. А выданне «Кансерватыўная жанчына» напярэдадні цяперашняга юбілею нават папрасіла прабачэння за тое, што ў 1969-м называла «Monty Python's» «шоу для садыстаў».

З іншага боку, казаць, што творчасць «пітонаў» страціла пратэстны кампанент, таксама не варта. Нездарма ў 2011 годзе, заклікаючы пратэстуючых лонданцаў на акцыю «Occupy», Джуліян Асанж згадаў фразу, якую ў фільме казаў у фільме Браян, калі звяртаўся да натоўпу: «Вы ўсе асобы!»

# Закрыць Новую Зеландыю?

Алег НОВІКАЎ

**У кантэксце апошніх навінаў з Новай Зеландыі высвятляецца, што «абарыгены з'елі Кука» цалкам справядліва.**

Група людзей у скурах радасна вітае маракоў і афіцэраў, якія сыходзяць з шлюпак на бераг і раздаюць тубыльцам падарункі. Яны прыплылі з карабля, контуры якога можна пабачыць на заднім плане. Гэта «Endeavour» — карабель славутага мараплаўца Джэймса Кука. Такая ў двух словах кампазіцыя карціны «Высадка Джэймса Кука ў Новай Зеландыі ў 1769 годзе». Яе арыгінал знаходзіцца ў мясцовай нацыянальнай мастацкай галерэі, а рэпрадукцыі змешчаныя ў падручніках па гісторыі.

Напэўна, ад гэтай выявы адштурхоўваліся арганізатары святкавання 250-й гадавіны прыбыцця Кука, якая адзначаецца ў гэтым годзе. Прынамсі, галоўную ролю ў канцэпцыі святаў адводзілі караблю — копіі «Endeavour». З 6 кастрычніка (дзень, калі Кук кінуў якар каля новазеландскіх берагоў) карабель павінен быў наведаць шэраг новазеландскіх гарадоў. У кожным з іх планаваліся святочныя імпрэзы.

І раптам, ледзь не напярэдадні пачатку святкаванняў, шырокая публіка пачула дасюль малавядомы факт. 6 кастрычніка 1769 года атмасфера на беразе, дзе высадзіўся Кук, была далёкая ад святочнай. У адказ на спробы маары правесці нейкую цырымонію, брытанцы пачалі страляць і забілі дзевяць чалавек.

У гэтым ракурсе запланаванае свята шмат для каго трансфармавалася ў сумную дату пачатку інтэрвенцыі і страты народу маары суверэнітэту. Візіт Кука выглядае як уверцюра да пачатку сістэмнай каланізацыі, у рамках якой праз хваробы, войны і эксплуатацыю мясцовыя жыхары хутка апынуліся ў меншасці на сваёй радзіме і, па-сутнасці, сталі людзьмі другога гатунку.

Адразу ўзнік рух за тое, каб скасаваць урачыстасці 6 кастрычніка. Арганізацыі абарыгенаў патрабавалі ад сваіх прадстаўнікоў у парламенце ўзняць пытанне, з якой нагоды маары-падаткаплацельшчыкі павінны фінансаваць свята ліквідацыі сваёй дзяржаўнасці. Акрамя таго, стартавала інфармацыйная кампанія, адрасаваная муніцыпалітэтам гарадоў, куды павінна была зайсці копія карабля «Endeavour». Гарсаветам прапанавалася прыняць рэзалюцыю супраць швартоўкі карабля. Праўда, на гэты момант вынік кампаніі сціплы — толькі адзін горад падтрымаў ідэю маары.


Фота www.thenorthernecho.co.uk

Часам гучаць увогуле радыкальныя тэзісы. «Ён (Кук) забіў некаторых нашых продкаў. Чаму ён прыплыў сюды? Хіба было цяжка зразумець, што гэтая зямля ўжо занятая?» — заявіў адзін з актывістаў маары ў інтэрв'ю выданню «New Zealand Herald».

Пратэсты атрымалі рэзананс. Іх нават заўважылі ў Лондане, дзе ўрад Яе Вялікасці заявіў, што вельмі шкадуе з-за забойстваў, якія адбыліся «ў момант першага кантакту падчас падарожжа да адкрыцця лейтэнанта Джэймса Кука 250 гадоў таму». Магчыма, гэта астудзіла сітуацыю, аднак тут жа да справы падключыліся брытанскія левыя СМІ і змагары супраць каланіяльнай спадчыны. У брытанскай прэсе патрабуюць, каб за забойствa маары маракамі Кука выбачылася асабіста каралева.

**Адразу ўзнік рух, каб скасаваць урачыстасці. Арганізацыі абарыгенаў патрабавалі ад сваіх прадстаўнікоў у парламенце ўзняць пытанне, з якой нагоды маары-падаткаплатнікі павінны фінансаваць свята ліквідацыі сваёй дзяржаўнасці**

На гэтым фоне аргументы апанентаў гучаць вельмі слаба. Ніхто не звяртае ўвагі на тое, што дакаланіяльная Новая Зеландыя была арэнай бясконцых канфліктаў паміж кланамі. А калі еўрапейцы пазнаёмілі іх са стрэльбамі, тыя канфлікты ператварыліся ў сапраўдную крывавую мясарубку, па выніках якой было забіта каля 40–60 тысяч чалавек. Яе наступствам стаў татальны недавер паміж кланамі маоры. Адзіным выхадам для стабілізацыі нечакана аказалася хрысціянства з яго з ідэяй прабачэння за зробленае зло.

Відавочна, што падыходы да экспедыцыі Кука будуць пераглядацца. Па гэта заявіла асабіста кіраўнік лейбарысцкага ўраду Джасінда Ардэн (Jacinda Ardern). Яна вырашала праігнараваць афіцыйны пачатак урачыстасцяў 6 кастрычніка, заклікаўшы распачаць гістарычныя дэбаты. На яе думку, не трэба баяцца спрэчак, якія з'яўляюцца часткай любой дыскусіі.

Чагосьці іншага было цяжка чакаць. Харызматычная Ардэн па поглядах належыць да левага крыла лейбарыстаў, што аўтаматычна вымагае падтрымліваць нацменшасці і крытыкаваць рэшткі каланіялізму. Праўда, для суайчыннікаў прыклад і аргументы прэм'ера аказаліся непераканаўчымі. Новазеландцы прыйшлі ў порт сустракаць копію карабля Джэймса Кука.

Замест фіналу ў дадзеным выпадку будзе лагічней зрабіць анонс. У наступным годзе ў Злучаных Штатах запланаваныя маштабныя святкаванні з нагоды плавання «Mayflower» — англійскага гандлёвага карабля, які ў 1620 годзе даставіў у Паўночную Амерыку першую партыю каланістаў. Няма сумневаў, што юбілей будзе палітызаваны (шмат хто лічыць, што з «Mayflower» распачаўся генацыд мясцовых індзейцаў). А паколькі ў наступным годзе — выбары прэзідэнта, а напал міжпартыйнай вайны дэмакратаў і рэспубліканцаў і цяпер ужо зашкальвае, канфрантацыя наконт гістарычных трактовак можа быць папросту фенаменальнай.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Сяргей Пашынскі



Пячэрскі суд Кіева 7 кастрычніка арыштаваў на два месяцы ўкраінскага палітыка, што сімвалізаваў рэжым Парашэнкі.

Такі фінал прагназаваўся даўно. У часы кіравання Парашэнкі Сяргей Пашынскі ўзначальваў камітэт нацыянальнай бяспекі і абароны Вярхоўнай Рады і засвяціўся ў шэрагу карупцыйных справаў наконт паставак для войска. Яго нахабны стыль камунікацыі абураў грамадскасць. Але ў выніку арыштаваны Пашынскі аказаўся з-за банальнай бытавухі. 31 снежня 2016 года на вуліцы Кіева ён пасварыўся з мінаком, і ў выніку стрэліў яму ў нагу. Узбуджаная ў пачатку 2017 года справа пазней была ці то закрытая, ці то адкладзеная ў доўгую скрыню. І вось праз два з паловай гады яна нечакана абнавілася і можа скончыцца для абвінавачанага турэмным зняволеннем на восем гадоў.

Але значна больш справа Пашынскага цікавая ў кантэксце цяперашняй палітычнай сітуацыі. Сёння каманда Парашэнкі арганізуе патрыятычную кампанію супраць Зяленскага, які гатовы ісці на саступкі ў Данбасе. Не выключана, што Пашынскага арыштавалі пад ціскам офіса прэзідэнта для шантажу каманды Парашэнкі. У лагеры апошняга хапае людзей, у тым ліку і сам экс-прэзідэнт, якія могуць быць прыцягнутыя да суду за розныя эканамічныя злачынствы. Таксама дапускаюць, што Зяленскі за кошт арышту адыёзнага палітыка адцягвае інтарэс грамадства ад пытання Данбасу.

Што тычыцца самога Сяргея Пашынскага, то ён назваў вердыкт суда лепшым падарункам на дзень нараджэння Пуціну.

### Марыён Марэшаль



Французскі палітык, прадстаўніца сямейнага клану Ле Пэн актыўна карыстаецца досведам сваёй цёткі Марын Ле Пэн у партыйных разборках.

Раней Марын Ле Пэн дамаглася выключэння з партыі «Нацыянальны фронт» (FN) свайго бацькі Жана-Мары Ле Пэна, які тую партыю і стварыў. Цяпер на яго месцы апынулася сама Марын, якую намагаецца падседзець пляменніца. Марэшаль абвясціла пра намер стварыць новую правую палітсілу, з'яўленне якой, натуральна, аслабіць пазіцыі партыі Марын.

Пра сур'ёзнасць намераў сведчыць нядаўні Канвент правых — вялікі сход аматараў правай ідэалогіі, мадэратарам якога стала Марэшаль. Па выніках мерапрыемства яна анансавала хуткае з'яўленне на сцэне «Саюза правых». Тая партыя будзе супрацьстаяць Марын Ле Пэн, якая занадта далёка адышла ад пачатковых традыцыяналісцкіх ідэалаў правага руху, дапусціўшы ў FN масонаў, гомасексуалаў і аматараў секулярызму. Менавіта ў гэтым, на думку Марэшаль і яе аднадумцаў, прычыны няздольнасці правых прыйсці да ўлады.

Ці атрымаецца ў яе абскакаць родную цётку, мы даведаемся праз пару гадоў. Тады пачнецца прэзідэнцкая кампанія, адным з удзельнікаў яе, як плануецца, стане кандыдат ад «Саюза правых».

### Барыс Чарнышоў



Намеснік старшыні камітэта Дзярждумы па адукацыі і навуцы, сябра партыі Жырыноўскага прапанаваў стварыць новую катэгорыю льготнікаў — «ахвяры перабудовы».

Аўтар матывуе гэта так: з-за перабудовы ў краіне было зафіксавана падзенне нараджальнасці, узрасла смяротнасць, шматлікія яе «ахвяры» набылі цяжкія захворванні, таму трэба ўвесці для іх меры сацыяльнай падтрымкі. Дарэчы, самога Чарнышова ад гэтых жахаў, што называецца, Бог ўратаваў — ён нарадзіўся ўжо пасля перабудовы, у 1991 годзе.

Навіна парвала інфармацыйнае поле, паколькі пад катэгорыю патэнцыйных ільготнікаў можа трапіць практычна кожны дарослы расіянін. Зрэшты, большасць не верыць у рэалізацыю прапановы Чарнышова, разглядаючы гэта як чарговую спробу «хайпу». Пры гэтым нечакана высветлілася, што падобная методыка рэкламы практыкуецца дэпутатамі Дзярждумы Расіі ўсё часцей. Некаторыя з прапаноў такога роду: забараніць ужыванне часныку ў грамадскіх месцах, штрафаваць за ўжыванне замежных слоў пры наяўнасці рускіх аналагаў, рабіць карупцыянерам на руцэ татуіроўку ў выглядзе літары «К», прыняць дуэльны кодэкс і гэтак далей.

Больш за тое, як стала вядома, пры асобных палітыках існуюць адмысловыя «мазгавыя цэнтры», якія спецыяльна прыдумляюць гучныя нежыццяздольныя ініцыятывы, каб пра іх напісалі СМІ. У гэтым ключы хайп Чарнышова можна разглядаць як сіндром хваробы расійскага інстытуту парламентарызму, які праз адсутнасць уплыву на палітычны працэс моцна маргіналізаваўся.




# Як уладкаваць вольную Беларусь

Ігар ЗЛАТАГУРСКІ

**Гэты ліст мы атрымалі ад вязня Глыбоцкай папраўчай калоніі №13. У ім наш даўні чытач Ігар Златагурскі дзеліцца думкамі пра волю, незалежнасць, беларускасць ды іншыя праблемы нашага грамадства. Ліст цікавы яшчэ і тым, што напісаны ён чалавекам, які шмат гадоў знаходзіцца за кратамі і можа сачыць за тым, што адбываецца ў краіне, толькі адтуль. Мы вырашылі пазнаёміць з меркаваннем Ігара чытачоў НЧ і запрасіць да дыскусіі.**

Цалкам натуральна, што кожны зняволены чакае і марыць пра дзень, калі станецца вольным. Уяўленне малюе гэты час выключна яскравымі фарбамі. Калі і паўстае цень адчування, што разам з воляю па той бок кратаў падпільноўваюць і турботы — дзе, як і на што жыць, — то свядомасць адціскае гэта ў найдалейшы куток. Галоўнае — выйсці на волю, тады і мецьмецца час думаць, што і як рабіць.

Пераважная большасць колішніх вязняў, якія кіруюцца падобнымі меркаваннямі, не здольныя даць рады цяжкасцям вольнага жыцця, і адно пытанне часу, калі яны зноў трапяць у вязніцу.

## Што ёсць воля?

Існуе падабенства паміж чаканнямі і лёсамі як уласна вязняў, гэтак і той часткі грамадства, што пачуваецца паняволеным. Было б карысна асэнсаваць гатоўнасць не гэтулькі атрымаць волю, колькі ўтрымаць яе досыць працяглы час. Воля не гарантаваная анікому. Ані асобнаму чалавеку, ані народу ў цэлым. Заўжды можа з'явіцца нехта, хто паставіць права на яе пад сумнеў.

Варта прызнаць, што не для кожнага грамадзяніна Беларусі, які вызнае волю за галоўную каштоўнасць, разуменне яе непарыўна звязанае з наяўнасцю незалежнай, суверэннай і беларускамоўнай дзяржавы беларускага народа.

Пры гэтых акалічнасцях адзіна слушнай падаецца прапанова вядомага грамадскага актывіста: «Трэба рабіць тое, што намагаліся рабіць бацькі-заснавальнікі БНР, — будаваць». Але кожнаму будаўніцтву павінны папярэднічаць выпрацоўка плану і інвентарызацыя будаўнічых матэрыялаў.

Пачаць належыць з нацыянальнай тоеснасці беларусаў — дарожнага каменю нацыянальнага і дзяржаўнага будаўніцтва беларускага народу. Стагоддзе таму, паводле Устаўных грамат, фундатары БНР разумелі Беларусь як тэрыторыю, «дзе пераважная большасць (больш за 50%) насельніцтва размаўляе па-беларуску, то-бок з'яўляецца беларускім народам». БНР павінна была «"абняць" Магілёўшчыну, беларускія часткі Міншчыны, Гродзеншчыны (з Гродна, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежнае часці суседніх губерняў, заселеных беларусамі». То-бок, у той час падмуркам тоеснасці беларусаў была беларуская мова.

Якая колькасць насельнікаў Беласточчыны, Віленшчыны і Чарнігаўшчыны са Смаленшчынай пачуваюцца сёння беларусамі і размаўляюць на беларускай мове, пытанне рытарычнае. Значна больш важна, ці дастане цяпер колькасці носьбітаў беларускай мовы ў межах сучаснай Рэспублікі Беларусь, каб умоўна засяліць прынамсі некалькі раёнаў?

Нельга не заўважаць, што сёння беларуская мова як фактар умацавання самавызначэння не ёсць бясспрэчнай умовай для ўсіх грамадзян краіны. Нават для тых, хто пераймаецца гэтым пытаннем. Але калі падмуркам нацыянальнай тоеснасці беларусаў не ёсць беларуская мова, тады што ёй наўзамен? Агульная гісторыя? Не. Для адных яна заканчваецца разам з падзеламі Рэчы Паспалітай ці ў 1918 годзе. Для іншых — толькі тады і пачынаецца. Трэція, падаецца, увогуле вядуць яе адлік з 1994 года.

## Культура?

Чаго дзівіцца, што пры гэтым становішчы частка беларусаў, як і сто гадоў таму, не супраць задаволіцца нацыянальна-культурніцкай аўтаноміяй у складзе Расіі. Але і пра сучасную беларускую культуру казаць не выпадае. Яе ролю ва ўяўленні паспалітага беларуса выконвае культура руская альбо яе клянаванне мясцовага паходжання. Згадаем, прынамсі, нацыянальны (!) адбор на «Еўрабачанне–2018» з запрашэннем «варага» Аляксеева. Ці сцэнічны псеўданім папулярнага маладога спевака — Белорусскіх. Не «Беларускі» нават, а вось гэтак, падкрэслена на маскоўскі густ, але, што праўда, з захаваннем «нацыянальнай» адметнасці... І гэткае стаўленне беларусаў да свайго — зусім не прыкмета адно нашага часу.

У 2002 годзе выдавецтва ЗАТ «МК-Перыёдыка» надрукавала кнігу «Чыя Беларусія? Межы. Спрэчкі. Крыўды» аўтарства М. Зяньковіча, колішняга супрацоўніка ЦК КПБ і ЦК КПСС. Кніга з'явілася ў выніку працы аўтара над аналітычнай запіскай па гісторыі і сацыяльна-палітычным становішчы Беларусі на замову органаў дзяржкіравання Расіі, што займаюцца інтэграцыяй нашых краін.

Датычна беларускай культуры аўтар, у прыватнасці, піша: «На побытавым узроўні велізарнай папулярнасцю карыстаўся рэпертуар спевакоў Яраслава Еўдакімава і Віктара Вуячыча, кампазітара-песенніка Эдуарда Ханка. Яны стваралі па-руску. Ці была эстрадная беларуская песня? Так, была. Але, за рэдкім выняткам, народ яе не спяваў. Аддавалі перавагу тым, хто пісаў і спяваў па-руску. І справа не ў памеры таленту, беларускамоўныя паэты і кампазітары не саступалі рускамоўным, але творы першых зьбольшага гучалі адно на дзяржаўным радыё. Як ні парадаксальна, карэнныя жыхары Беларусі спявалі песні прыхадняў». Праблема паўстала значна раней.

Трэба лічыцца і з сусветнай тэндэнцыяй прыросту колькасці людзей (27% паводле Яраслава Раманчука з цэнтру Мізеса), якія не бачаць патрэбы ў нейкай нацыянальнай прыналежнасці. Павялічваецца і колькасць публікацый, якія кажуць, што дзяржава-нацыя памірае.

Пагаджаецца з гэтым меркаваннем і кіраўнік аналітычнага цэнтру «Стратэгія» Леанід Заіка: «...людзі, якія дастаткова адукаваныя, якія могуць працаваць па ўсім свеце, канкурэнтаздольныя, добра ведаюць некалькі моваў... могуць утварыць уласную дзяржаву».

Вядомыя свету навукоўцы ўжо спрабуюць рэалізаваць гэтую ідэю на практыцы. Мяркуецца на сабранnetwork з грамадзянаў будучай віртуальнай дзяржавы сродкі пабудаваць і запусціць на арбіту спадарожнік з серверам, што будзе ўтрымліваць асабістыя дадзеныя гэтых людзей, каб гэткім чынам набыць экстэрытарыяльнасць. Вядуцца і кансультацыі на ўзроўні ААН наконт юрыдычнага абгрунтавання распрацовак і міжнароднага прызнання будучага віртуальнага грамадзянства.

Застаецца адно гадаць, колькі беларусаў з акрэсленымі Заікам якасцямі ў выпадку поспеху гэткіх захадаў палічаць за лепшае змяніць грамадзянства на іх карысць.

## «Рускія са знакам якасці»

Здавалася б, пры ўсіх згаданых варунках спроба пабудовы беларускай нацыянальнай тоеснасці на грунце беларускай мовы не мае шанцаў на поспех. Але, паводле міжнароднага апытання, зладжанага пазалетась, грамадзяне большасці эканамічна паспяховых краін вызначылі самым галоўным чыннікам, які ўплывае на нацыянальную ідэнтычнасць, менавіта мову.

У згаданай кнізе Зяньковіча адзначаецца, што ў Беларусі «ў 1998 годзе рускіх было блізу двух мільёнаў, ці 20% усяго насельніцтва. У адрозненне ад большасці іншых краінаў СНД, рускіх у Беларусі не паменшылася, а дадалося. Беларусь прыняла шматлікіх рускіх выгнанцаў з Цэнтральнай Азіі і Закаўказзя».

Даследаваў аўтар і структуру рускай дыяспары. Толькі блізу 200 тысячаў рускіх атабарыліся ў сельскай мясцовасці і «працуюць пераважна на тэхніцы — кіроўцамі і трактарыстамі». Астатнія жывуць у буйных, сярэдніх і малых гарадах Беларусі: «...300 тысячаў этнічных рускіх занятыя ў прамысловасці, палова з іх — інжынерна-тэхнічныя работнікі, рэшта — рабочыя». Але «самую буйную частку складаюць вайсковыя пенсіянеры і чальцы іх сем'яў... іх блізу 600 тысячаў». Астатнія — навукоўцы, выкладчыкі, настаўнікі і дзеячы культуры. Значная прысутнасць этнічных рускіх і ў органах дзяржаўнага кіравання.

Іншымі словамі, пераважная большасць этнічных рускіх у Беларусі — гэта тыя, хто ў любой дзяржаве свету лічыцца элітай. Напэўна, аніхто дакладна не ведае працэнт, які прыходзіцца на іх у эліце Беларусі ў цэлым. Але тое, што руская дыяспара мае вялікі ўплыў на грамадска-палітычныя працэсы, бясспрэчна.

Паводле пададзеных у кнізе высноваў, зладжаных асабіста Зяньковічам апытанняў сярод розных групаў рускай дыяспары ў Беларусі, бачна, што сярод эліты этнічных рускіх пераважае меркаванне: «без Расіі беларусы ні на што не здатныя». І толькі рускія ІТРаўцы «пачуваюцца больш беларусамі, чымсьці рускія... Мяркуюць і дзейнічаюць як грамадзяне карэннай нацыянальнасці».

Згадвае аўтар і цікавую акалічнасць, што выявілася падчас перапісу насельніцтва Беларусі: «больш за 300 тысячаў асобаў некарэнных нацыянальнасцяў назвалі сваёй роднай мовай беларускую. З іх рускіх было менш за тысячу. Абсалютная большасць рускіх (99%) не ведаюць і не жадаюць ведаць мовы сваёй другой Радзімы».

Ёсць хібай лічыць большасць рускай дыяспары прыхільнікамі скасавання незалежнасці і дзяржаўнасці Беларусі, яе інкарпарацыі ў Расію. Хутчэй, шмат хто жадаў бы бачыць нашую дзяржаву паспяховым прыкладам краіны рускага свету з чалавечым тварам без усялякіх двукоссяў.

## Русіфікацыя супраць Расіі

Якімі аргументамі магчыма схіліць гэтых людзей да ідэі ўладкавання Беларусі як менавіта нацыянальнай беларускай дзяржавы? Складанае пытанне. Хіба што прапанаваць асэнсаваць наступнае.

Зрусіфікаваўшы беларусаў, этнічныя рускія атрымалі за суграмадзянаў людзей, якія, прыстасоўваючыся да ўмоваў сумеснага існавання, выракліся родных мовы і культуры. Ці магчыма засцерагчыся, што ў будучыні не складзецца становішча, пры якім беларусы гэтаксама адмовяцца ўжо ад рускай мовы і культуры? Аднойчы здрадзіўшы свайму роднаму, яшчэ лягчэй здрадзіць прышчэпленаму.

Сёння чуюцца аргументы кшталту: «Навошта тая беларуская мова ў час глабалізацыі, больш карысна вывучаць англійскую ці кітайскую». Але свет змяняецца наймкліва, і ніхто не здолее гарантаваць, што праз 10–20 гадоў веданне той жа кітайскай мовы не падасца больш карысным за веданне мовы рускай.

Мажліва, мае сэнс і звярнуць увагу тых рускіх грамадзян Беларусі, якія крытычна ставяцца да курсу сённяшняй Расіі, што цывілізаваны варыянт «рускага свету» ў нашай краіне будзе гэтак жа непрымальны для

расійскіх уладаў, як і беларуская нацыянальная дзяржава. Бо паставіць пад сумнеў слушнасць здзейсненага імі напрамку развіцця самой Расіі.

Нам, беларусам, у сваю чаргу, належыць цвёрда ўсведамляць, што беларусізацыя нашага жыцця, — у першую чаргу пашырэнне ўжытку беларускай мовы, — якую мы ўспрымаем як дасягненне абумоўленых Канстытуцыяй правоў роўнасці з мовай рускай з боку пераважнай большасці нашых грамадзян рускага паходжання будзе ўважацца за дэрусіфікацыю. Нават наймякчэйшы яе варыянт. У выніку яе яны змушаныя будуць пачувацца нацыянальнай меншасцю, чаго і блізка няма зараз. Гэткае пачуццё з натуральных чыннікаў неўласцівае рускаму менталітэту і, безумоўна, не можа не выклікаць адпрэчвання.

Працэс паразумення між намі на гэты конт льга параўнаць з хадою па крохкім лёдзе.

Усё напісанае не мае сэнсу, калі не развязаць найгалоўнейшае пытанне: як павярнуць да беларушчыны абыякавую да яе большасць уласна беларусаў па крыві.

Аніхто дакладна не ведае, як гэтае здзейсніць. Хтосьці ўжо чвэрць стагоддзя чакае, калі ў гэтай масы абудзіцца раптам нацыянальная самасвядомасць, дый самі ўцямна не разумеюць, якім чынам тое мусіць атрымацца. Іншыя бясконца заклікаюць неадкладна ўзяцца за гэтую справу ўладу. Бясспрэчна, калі б гэтак сталася, беларусізацыя адбылася найхутчэй. Ды давайце цвяроза разважым, ці магчыма гэта ўвогуле.

Сённяшняя ўлада, пры ўсіх хібах і заганах, папраўдзе ёсць выразнікам чаканняў і памкненняў менавіта гэтай бальшыні насельніцтва Беларусі. Адмаўляць гэты факт — аблуда і самападман. Іншая справа, што сёння нестае рэсурсаў задаволіць прагненні гэтых людзей. І адно гэтая акалічнасць і выклікае зараз у іх незадаволенасць. Гэтыя людзі жадаюць, каб было «як раней», гадоў з 10 таму. Ім не трэба «неяк інакш». Калі існая ўлада замест вырашэння гэтага пытання знянацку прыслухаецца да альтэрнатыўных заклікаў, то з вялікай верагоднасцю страціць падтрымку згаданай масы. Для гэтых людзей на першым месцы стаяць не пытанні нацыябудавання і незалежнасці, а выжыванне і ўласны дабрабыт. Магчыма пагарджаць гэтым, але нельга не лічыцца.

## Эканоміка павінна быць!

Калі ўжо зусім шчыра, падобныя людзі гэтаксама маюць уласную рацыю. У падмурку каштоўнасцяў што асобнага чалавека, што грамады заўжды месціцца дабрабыт. Тая праўда, што не хлебам адзіным жыве чалавек, роўная праўдзе, што і без хлеба з пітвом, вопраткі і жытла яму гэтаксама не абысціся.

У падмурку ўсяго павінна быць эканоміка. Менавіта ад яе эфектыўнасці залежыць і дабрабыт асобнага грамадзяніна, і незалежнасць краіны. Як і лёс беларускай мовы.

Стан сучаснай эканомікі Беларусі апісаны абазнанымі ў справе экспертамі не адзін раз. Састарэлыя тэхналагічна і ментальна прадпрыемствы імкліва губляюць канкурэнтаздольнасць. Ледзь не татальная залежнасць ад Расіі як крыніцы сыравіны, танных энерганосьбітаў, рынку збыту выробленай прадукцыі і працы для плоймы грамадзянаў нашай краіны.

Марна спрачацца наконт таго, хто каму больш вінен і хто для каго што робіць — больш карысці Расіі ад Беларусі ці наадварот. Няўмольная праўда ў тым, што залежнасць беларускай эканомікі ад Расіі цягне за сабой і залежнасць ад яе беларускай дзяржавы. Нашы суверэнітэт і незалежнасць праз гэтыя акалічнасці досыць хісткія. Ці не таму шмат хто з грамадзянаў Беларусі ўскладае свае спадзяванні на лепшы дабрабыт больш на развіццё тых ці іншых дачыненняў з Расіяй, чымсьці на пабудову Беларусі як нацыянальнай і незалежнай дзяржавы? Ні аб суверэннасці і незалежнасці, ні аб нацыянальным развіцці няма чаго і казаць, калі беларусы не навучацца самі зарабляць сабе на пражыццё. На жаль, здзейсніць гэта будзе не менш складана за абуджэнне нацыянальнай самасвядомасці.

Справа ж не толькі ў тым, што існая ўлада не наважваецца на неабходныя для эканомікі і іншага структурныя рэформы. Нават перад тым гіпатэтычным, ліберальным і рынкавым, што зменіць яе і пажадае распачаць гэтую працу, адразу паўстануць пытанні, што і як рабіць ды адкуль узяць грошы. Вельмі складаныя пытанні, якія не маюць гатовага адказу, хто б што ні казаў.

Прыкладам, спрабаваць і далей мадэрнізаваць тыя прадпрыемствы, што маюцца, альбо ад пачатку будаваць прамысловасць новага тэхналагічнага ладу?

Цяжкасці мадэрнізацыі, якая здзяйснялася ў Беларусі апошнім часам, абумоўленыя не адно тым, што рабілася не тымі і не гэтак, як трэба. Па меркаванні дасведчаных адмыслоўцаў, у сучаснай сусветнай эканамічнай навуцы ўвогуле няма вартых распрацовак па мадэрнізацыі эканомік для невялікіх краінаў, што развіваюцца. Парады МВФ ці Сусветнага банку даць рады праблеме не дапамогуць. Да таго ж, нават мадэрнізаваныя прадпрыемствы савецкай спадчыны не вытрымаюць канкурэнцыі з прадпрыемствамі тэхнічнага ладу 4.0, дзе пануюць 3D-прынтынг, штучны інтэлект і біятэхналогіі.

Гэта азначае, што мае сэнс будаваць новую эканоміку — з новымі прадпрыемствамі, паводле тэхналогіі новага ладу, з нуля. Але, па меркаванні Аляксандра Абуховіча, уласнікі гэтых тэхналогій задарма іх не дадуць. Уласнымі рукамі канкурэнтаў сабе не ствараюць. І купіць не атрымаецца — Кітай навучыў не прадаваць. І ці добра мы ўсведамляем, што нават «пры спрыяльнейшым збегу акалічнасцяў — наяўнасці разумення і плану, што і як рабіць, тэхналогій, грашовых і чалавечых рэсурсаў, палітычнай і грамадскай волі — эфект ад рэфармавання пачне праглядацца добра калі гадоў праз сем. І ўвесь гэты час усе выдаткі дзяржавы прыйдзецца фінансаваць па рэштавым прынцыпе». Што непазбежна выкліча сацыяльна-палітычнае напружанне ў грамадстве. І не толькі яго.

## Расія з намі назаўсёды?

Аляксандр Абуховіч цалкам слушна заўважае, што «поўная незалежнасць невялікіх дзяржаў побач з буйнымі суседзямі заўжды была, ёсць і будзе ілюзіяй. Гэткім чынам ажыццяўленне нацыянальна арыентаванай эканамічнай палітыкі — складаная і працаёмкая праца. Часцяком — на грунце кампрамісаў з дзяржавамі-партнёрамі».

Мы заўжды будзем змушаныя шукаць паразумення з Расіяй. Нават тады, калі асэнсуем, што плаціць ёй за нафту з газам ці што іншае па рынкавых коштах — адзіна слушная і карысная для Беларусі пастанова. Нават тады, калі аддадзім ёй усе пазыкі да апошняга рубля, і мецьмем патрэбы ў новых пазыках. Расія заўжды будзе мець свае, адрозныя ад нашых, інтарэсы ў Беларусі. Толькі таму, што мы ёсць суседзямі, і гэтага не зменіць. Не важна, будуць гэтыя інтарэсы неаімперскімі ці прагматычна-бізнесовымі. Наш сусед як больш буйны гулец заўжды будзе імкнуцца ўплываць на нас на сваю карысць. Падобнае робяць усе вялікія краіны: што аўтарытарныя, што дэмакратычныя. Розніцы няма.

Гэта не залежная ад нашай волі дадзенасць. Але ў волі беларусаў, прынамсі, распачаць выпрацоўку плану нацыянальнай эканамічнай палітыкі ў дачыненнях з Расіяй.

Даць рады гэткай справе здатныя адно людзі з адмысловымі ведамі і кампетэнцыямі. Асобы, здольныя працаваць ва ўмовах, якія вельмі красамоўна абмаляваў кіраўнік Расійскага Сбербанку Герман Грэф па наведванні «Сіліконавай даліны» ў ЗША: «Дзве самыя галоўныя высновы, якія я вынес, парадаксальныя. Першая: на самай справе няма ніякай канкурэнцыі тавараў, прадуктаў ці паслуг. Ёсць канкурэнцыя мадэляў кіравання. Кампаніі ўжо не канкуруюць за прадукт, прадукт гэтак хутка мяняецца, што бессэнсоўна спрабаваць нешта прайграваць... Прайграць можна ўсё, што заўгодна. І можна выйграць толькі за кошт больш эфектыўнай сістэмы кіравання, якая злучае ў сабе ўсе аспекты. І ў тым ліку, і, можа быць, у першую чаргу, аспект культуры. Ні адна буйная кампанія не мае шанцаў выжыць, калі яна не трансфармуе сваю мадэль кіравання... Гэткую хуткасць нельга перадаць на словах, яе трэба перадаваць максімальна ў адчуваннях. Калі я скажу, што сённяшні год — гэта як 5 ці 7, як 10 гадоў таму, я, напэўна, не вельмі моцна памылюся. Таму што за год адбываюцца вельмі вялікія змены... Усюды канкурэнцыя... Паўсюль каласальная канкурэнцыя... Яна нарастае, яна набліжаецца і да нашага дому. І мы не пазбегнем яе. Нам трэба гэта разумець».

Прапаную прыпыніцца на хвілінаку і задумацца: а ці шмат ведаем у сваім асяродку людзей, здольных не тое што працаваць, а прынамсі, разважаць у гэткім рэчышчы? Няшмат. Лічаныя адзінкі. Падобныя людзі — адзінкавы прадукт. І не толькі ў Беларусі — па ўсім свеце. А між тым, яны ў нас маюцца. І не ўсе яны з'ехалі за мяжу. Пакуль не з'ехалі. У нечым гэтыя асобы — антыподы сярэднестатыстычнага беларуса, што пераважае ў нашым грамадстве. Жорсткая штодзённая канкурэнцыя не толькі не пужае іх, але і ёсць нормай жыцця.

## Кадры вырашаюць усё!

Калі не здарыцца нейкая глабальная катастрофа, пры тэндэнцыях, што набіраюць хаду ў сусветнай эканоміцы, годная будучыня Беларусі залежыць не гэтулькі — а можа, і зусім не залежыць! — ад працы сялянаў і рабочых, колькі ад таго, у якім памеры крэатыўная супольнасць нашых суайчыннікаў здолее рэалізаваць свой патэнцыял.

Іншымі словамі, калі беларусы і надалей будуць ахвяраваць інтэлектам і ведамі на карысць уяўных роўнасці і справядлівасці, не атрымаецца захаваць нават той узровень жыцця, што маем зараз. І не толькі яго. Мажліва, праз пэўны час пад пытанне паўстануць і незалежнасць, і дзяржаўнасць.




А ўсім, хто пераймаецца лёсам беларускай мовы і праблемай умацавання нацыянальнай тоеснасці, ужо даўно варта было б скіраваць усе свае высілкі на працу менавіта з вось гэтымі адукаванымі крэатыўнымі людзьмі. Зрабіць гэтак, каб беларуская мова сталася мовай унутранай камунікацыі ПВТ, каб да яе выявілі цікаўнасць уласнікі сярэдняга і малога бізнесу, — і за яе далейшы лёс, як і за лёс Беларусі як нацыянальнага ўтварэння, можна больш не хвалявацца. Гэтую працу належала выканаць яшчэ ўчора, бо распачынаць яе заўтра можа быць запозна.

На пошукі развязання, як здзейсніць яе найлепшым чынам, і мусіла б скіравацца творчая інтэлігенцыя, што дбае пра беларушчыну. Простыя заклікі поспеху не зазнаюць. Крэатыўныя асобы на іх вядуцца мала. Калі гэтыя людзі насамрэч не адчуюць, што беларуская мова і гісторыя мусяць стаць часткай іх самасвядомасці, не адчуюць, што менавіта ў беларускай Беларусі іх сапраўдны дом, — не дапаможа нічога. І вельмі шмат іншых утульных і ўладкаваных дамоў ужо зараз гатовыя гасцінна расчыніць перад імі дзверы.

Гэткія людзі шануюць адметнасць, і самі імкнуцца вырабляць унікальны прадукт. Магчыма, варта спрабаваць звярнуць іх увагу на адметныя бакі беларускіх мовы і культуры. Прапанаваць новы погляд на іх, які арганічна злучыць у сабе былое і павевы новага часу. Беларуская мова і культура павінны перастаць атаясамлівацца з адсталай калгаснай вёскай і стаць натуральным складнікам гарадской культуры інтэлектуальнага класу, чальцы якога здольныя самі фармаваць сваю будучыню. Тады Беларусь і насамрэч будзе жыць.

## На завяршэнне

Напрыканцы вярнуся да таго, з чаго пачаў: існуе апокрыф, як Аўгуста Піначэт ператварыў Чылі з краіны, у якой, як і паўсюль у Лацінскай Амерыцы заўжды буяў крымінал, у дзяржаву, дзе да нашага часу захоўваецца адзін з найменшых у свеце паказчыкаў узроўню злачыннасці. Нібыта генерал загадаў падчас усталявання дыктатуры расстраляць усіх злачынцаў, што трапілі за краты трэці раз.

Хто ведае, ці праўда тое. Але з назіранняў за сваім сённяшнім атачэннем мяркую, што першага разу ў вязніцу магчыма трапіць праз глупства ці выпадкова. З некаторым прыпушчэннем на неспрыяльны збег акалічнасцяў — і другога. Датычна ўвязненых трэцяга разу належыць прызнаць, што, мусіць, яны хранічна няздатныя да жыцця на волі. Бо яно, у першую чаргу, вымагае адказнасці за самога сябе.

Гісторыя давала беларусам шанец на стварэнне незалежнай нацыянальнай дзяржавы ў 1918 годзе. Спроба пабудаваць БНР атрымалася няўдалай.

Распад СССР у 1991 годзе дазволіў стварыць Рэспубліку Беларусь. Што атрымаецца ў выніку — мы пабачым на ўласныя вочы.

Паводле логікі, будзе і трэці шанец. Але ці будзем мы гатовыя да яго? Бо ён, бадай, можа быць і апошнім...

# Рэвалюцыя моды — на шляху да цыркулярнай эканомікі

**Выстава «Рэвалюцыя моды — будучыня тэкстылю» асвятляе асноўныя праблемы індустрыі моды і дэманструе шведскія рашэнні і ініцыятывы для больш устойлівага жыцця. Выстава падрыхтаваная Шведскім Інстытутам разам з даследчыкамі і спецыялістамі ў галіне моды.**




Сёння ў індустрыі моды дамінуе лінейная структура, якая часам апісваецца словамі «ўзяць, зрабіць, выкінуць». З 2000 года вытворчасць адзення ў свеце павялічылася больш чым удвая. У год мы спажываем каля 62 мільёнаў тон адзення ў сусветным маштабе, і толькі 20 працэнтаў выкарыстоўваецца паўторна альбо перапрацоўваецца. Як бачна, індустрыя моды — адна з самых забруджвальных галін у свеце.

Выстава дэманструе новыя ініцыятывы, якія ўзнікаюць у шведскай фэшн-індустрыі: ад даследчых праектаў да ўстойлівых калекцый, што ствараюцца як бізнесам, так і стартапамі з удзелам прадстаўнікоў з розных галін прамысловасці, якія канкуруюць паміж сабой і тым самым пракладаюць шлях да рэвалюцыі моды.

«Новыя тэхналогіі ствараюць новыя ўмовы. Шведская кампанія WeaReSpinDye выкарыстоўвае тэхніку афарбоўвання, якая зніжае спажыванне вады на 75% і хімічных рэчываў на 90%».

Выстава «Рэвалюцыя моды — будучыня тэкстылю» дэманструецца ў рамках Тыдня Моды ў Беларусі ў **Цэнтральным Атрыуме ГЗЦ Dana Mall (вул. Мсціслаўца, 11, г. Мінск) з 14 па 20 кастрычніка.** Афіцыйнае адкрыццё выставы — **14 кастрычніка а 17.00. Уваход вольны.**

Праект рэалізуецца Пасольствам Швецыі ў Мінску ў супрацоўніцтве з Беларускай палатай моды пры падтрымцы Шведскага Інстытута.

# БагатаДата

**У Беларусі знайшлі нафту, запусцілі найдаўжэйшы ў свеце нафтаправод, у Мінску быў адкрыты трамвайны рух, а на БМЗ была здзейсненая першая плаўка сталі. У гэтыя дні мы адзначаем шматлікія юбілеі і круглыя даты.**

### 12 кастрычніка

**1994.** Нацыянальная зборная Беларусі па футболе атрымала першую перамогу ў суверэннай гісторыі — над камандай Люксембургу. У складзе нашай зборнай у тым матчы, напрыклад, гулялі такія славутыя футбалісты, як Алейнікаў, Герасімец, Зыгмантовіч, Мятліцкі, Гурэнка. А таксама цяперашні галоўны трэнер «нацыяналкі» Міхаіл Мархель.

### 13 кастрычніка

**Міжнародны дзень за зніжэнне стыхійных бедстваў.**

**1929.** У Мінску быў адкрыты трамвайны рух. Пачалі дзейнічаць два маршруты па цэнтры горада: трамваі ездзілі ад вуліцы Маскоўскай да Камароўкі і ад чыгуначнага вакзала да плошчы Свабоды.

**1984.** У Ровенскай вобласці ва Украіне нарадзіўся беларускі фрыстайліст Антон Кушнір. Выйграў залаты медаль у лыжнай акрабатыцы на Алімпійскіх гульнях у Сочы 2014 года.

### 14 кастрычніка

У Беларусі адзначаецца **Дзень маці.**

**1899.** У вёсцы Слабада-Кучынка (Капыльскі раён на Міншчыне) нарадзіўся беларускі пісьменнік і крытык Адам Бабарэка. Адзін з арганізатараў літаб'яднанняў «Узвышша» і «Маладняк». Некалькі разоў арыштоўваўся ў 1930-я гады: былі ссылка і лагер, у якім Бабарэка і памёр.

**2004.** У Мінску памёр народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін. Яго самыя вядомыя творы: «Глыбокая плынь», «Вазьму твой боль», «Атланты і карыятыды», «Сэрца на далоні».

### 15 кастрычніка

**1914.** У вёсцы Лучнікі Слуцкага павета Мінскай губерні нарадзіўся беларускі паэт Лявон Случанін. У 1937 годзе быў арыштаваны, прысуджаны да 10 гадоў пазбаўлення волі; накіраваны на Беламорканал. У 1939 годзе быў датэрмінова вызвалены і вярнуўся ў родную вёску. Уладкаваўся ў Слуцку ў сярэднюю школу выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры. З 1940 года выкладаў у Слуцкім педтэхнікуме. У часы нямецкай акупацыі працаваў дырэктарам Лучнікоўскай школы (1941–1943), школьным інспектарам на Случчыне (1943–1944). Адначасова супрацоўнічаў у акруговай «Газэце Случчыны»; друкаваўся ў «Беларускай газэце» (Мінск), «Голасе вёскі» (Мінск), «Раніцы» (Берлін) і часопісе «Новая дарога» (Беласток). Прымаў удзел у Другім Усебеларускім кангрэсе. Пры адступленні немцаў выехаў з сям'ёй у Германію. Працаваў карэспандэнтам у часопісе «Малады змагар», які выдаваў Саюз беларускай моладзі (1944–1945). Вясной 1945 года трапіў у амерыканскую акупацыйную зону. Вярнуўся ў родную вёску, дзе быў арыштаваны. Асуджаны на 15 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Адбываў пакаранне на Поўначы. Потым тэрмін быў зменшаны да 10 гадоў зняволення. Пасля вызвалення да 1973 года жыў у Варкуце, потым вярнуўся на радзіму і жыў у Салігорску. Сябар Саюза пісьменнікаў Беларусі з 1993 года. Памёр 25 кастрычніка 1995-га ў Салігорску.

**1964.** У Мінску нарадзілася адна з лепшых беларускіх баскетбалістак у гісторыі Ірына Сумнікава. У 1980–1992 гадах гуляла за мінскі «Гарызонт», затым за клубы з Германіі, Венгрыі і Расіі. Станавілася прызёркай Алімпіяды і чэмпіёнкай Еўропы ў складзе зборнай СССР, алімпійскай чэмпіёнкай–1992 — у складзе зборнай СНД. Пасля гэтага гуляла за зборную Расіі, з якой двойчы заваёўвала бронзавыя медалі чэмпіянату Еўропы.

**1964.** Запушчаны самы доўгі ў свеце нафтаправод — «Дружба», які пракладзены ў тым ліку па тэрыторыі Беларусі.

**1984.** Адбылася першая плаўка сталі на Беларускім металургічным заводзе ў Жлобіне.

### 16 кастрычніка

**Міжнародны дзень харчавання.**

**1904.** У вёсцы Дроздава Талачынскага раёна Віцебшчыны нарадзіўся Дзмітрый Караткевіч, адзін з кіраўнікоў Мінскага падполля падчас Другой сусветнай вайны. Да вайны ён працаваў міліцыянтам, кіраваў Заслаўскім райкамам кампартыі і быў начальнікам Галоўгандлю БССР. Закатаваны і павешаны фашыстамі ў цэнтры Мінска. Менавіта ў яго гонар, а не пісьменніка Уладзіміра Караткевіча, названа адна з вуліц сталіцы.

### 17 кастрычніка

**Міжнародны дзень барацьбы за ліквідацыю галечы.**

**1919.** У расійскай Волагдзе нарадзіўся беларускі архітэктар Георгій Сысоеў. Самыя вядомыя яго працы: шэраг дамоў на праспекце Незалежнасці ў Мінску (у тым ліку той, дзе месціцца «Акадэмкніга»), гатэль «Мінск», мемарыяльны комплекс «Брэсцкая крэпасць-герой», рэканструкцыя сталічнага Дома афіцэраў.

**1964.** Знойдзена першае радовішча беларускай нафты — каля Рэчыцы. У першыя гады пасля адкрыцця тут пампавалі да 8 мільёнаў тонаў на год, цяпер — крыху больш за 1,5 мільёна.

**2004.** У Беларусі адбыўся трэці рэферэндум. Выносілася пытанне аб зменах у Канстытуцыю, каб адна асоба магла займаць пасаду прэзідэнта неабмежаваную колькасць тэрмінаў, і, адпаведна, аб праве Аляксандра Лукашэнкі балатавацца на кіраўніка краіны яшчэ раз. Паводле звестак Цэнтрвыбаркаму, амаль 80% беларусаў захацелі, каб адзін чалавек мог кіраваць Беларуссю бясконца.

### 18 кастрычніка

**1919.** У вёсцы Старое Сяло Мінскага раёна нарадзіўся Усевалад Кароль, акушэр-гінеколаг, грамадска-палітычны дзеяч. Апошні кіраўнік Беларускага студэнцкага саюзу — арганізацыі моладзі ўніверсітэту Стэфана Баторыя ў Вільні (Кароль вучыўся там на медфакультэце). Падчас Другой сусветнай вайны працаваў лекарам у Баранавічах, кіраваў мясцовай філіяй Беларускай незалежніцкай партыі. У 1945 годзе яго арыштавалі і саслалі на 10 гадоў у лагер. У 1955 годзе ён вярнуўся ў Баранавічы, працаваў шмат гадоў намеснікам дырэктара радзільні па медыцынскай частцы. Лагернае мінулае не дазваляла яму зрабіць кар'еры.

**1954.** У вёсцы Касута Вілейскага раёна на Міншчыне нарадзіўся Пётр Міклашэвіч, старшыня Канстытуцыйнага Суда Беларусі і былы генеральны пракурор.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1653

Падпісана да друку 11.10.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.